



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

4 сакавіка 2016 года №10 (**1088**)


*Мілыя жанчыны,*
*ніколі не забывайце,*
*што вы — найдаражэйшае*
*ўпрыгажэнне ў свеце!*
*Віншуем вас з 8 Сакавіка!*

*Рэдакцыя "РГ".*

## "Аказваецца, мы нядрэнна жывём!" Чаму беларусы не давяраюць статыстыцы па зарплатах?

старонка **2**

## Як зэканоміць на "камуналцы". Мяняем лямпачкі на святлодыёдныя і ставім на краны аэратары

старонка **3**

Надзея Тугусава з мужам Андрэем і сынамі Іллёй (чатыры з паловай гады) і Піліпам (два з паловай гады).

# "Місіс Маладзечна 2016" Надзея Тугусава:

## "Буду вучыцца масажу, каб сваім мужчынам масажыраваць пятачкі і спінкі"

старонка **21**

Фота Настассі РОЎДЫ.

## Аказваецца, мы нядрэнна жывём!"

### Чаму беларусы часта не давяраюць статыстыцы па зарплатах?

**Налічаная сярэдняя зарплата за студзень у параўнанні са снежнем прыкметна зменшылася.**

Напрыклад, на Маладзечаншчыне – на 700 з лішкам тысяч рублёў, у Вілейскім раёне – практычна на 600 тысяч.

Па інфармацыі галоўных статыстычных ўпраўленняў Мінскай і Гродзенскай абласцей, у рэгіёне па-ранейшаму трымаецца ў лідарах Астравецкі раён. Там намінальны налічаны заробак за студзень набліжаецца да 5 мільёнаў 700 тысяч рублёў. На другім месцы ў рэгіёне – Маладзечаншчына, дзе ў сярэднім налічылі 5 мільёнаў 628 тысяч рублёў.

На трэцім месцы – Смаргонскі раён з заробкам у 5 мільёнаў 274 тысячы.

Далей ідзе Мядзельшчына – 5 мільёнаў 143 тысячы рублёў. На Вілейшчыне налічылі без сямі тысяч 5 мільёнаў. Яшчэ меншы сярэдні заробак на Валожыншчыне – 4 мільёны 975 тысяч.

Найніжэйшы ў рэгіёне налічаны сярэдні заробак на Ашмяншчыне. Там ён крыху не дацягнуў да 4 мільёнаў 950 тысяч рублёў.

### Што такое медыянная зарплата і наколькі яна меншая за сярэднюю

Пасля знаёмства з заробкамі ў рэгіёне чытач **Сяргей** з Маладзечна даслаў у рэдакцыю пытанне: "Азнаёміўся са статыстыкай заработнай платы і вачам сваім не паверыў. Няўжо гэта праўда? Аказваецца, мы нядрэнна жывём! Колькі працэнтаў насельніцтва нашага горада атрымліваюць два-тры ці тры-чатыры мільёны? Мне здаецца, працэнтаў 80. І атрымліваецца, што маленькі працэнт насельніцтва з вялікай зарплатай цягне статыстыку наверх. Мне здаецца, што большасць рабочага народа жыве за мяжой сярэдняй зарплаты.

> **А так па статыстыцы атрымліваецца як у анекдоце: "Дырэктар есць мяса, рабочы капусту. А разам яны ядуць галубцы".**

Найперш, прыміце да ўвагі, што зарплата ў справаздачнасці ўказаная налічаная. "На рукі" чалавек атрымае менш з-за выліку падаходнага падатку, адлічэння ў пенсійны фонд і г. д.

Як і Сяргей, многія лічаць, што зарплаты размеркаваныя нераўнамерна. Таму існуе іншы паказчык: медыянны заробак. Ён лепш адлюстроўвае рэальную сітуацыю. Калі сярэдняя зарплата – гэта проста сярэдняе арыфметычнае заробкаў, то медыянны заробак – тая сума, больш і менш якой у краіне зарабляе аднолькавая колькасць чалавек. Да прыкладу, калі з пяці работнікаў адзін атрымлівае два мільёны рублёў, другі – тры, трэці – чатыры, чацверты – пяць, а пяты – 20, то сярэдні заробак складзе амаль сем мільёнаў рублёў. А медыянны будзе чатыры мільёны, таму што палова работнікаў атрымлівае больш гэтай сумы, іншая палова – менш.

Па раёнах такой статыстыкі наконт медыяннай зарплаты не знайшлося. На рэспубліцы і абласцях Белстат паказвае лічбы па медыяннай зарплаце двойчы на год. Апошні раз – па выніках леташняга лістапада. Тады медыянны заробак у Беларусі склаў каля 5 мільёнаў 300 тысяч рублёў. Гэта амаль на 1,5 мільёна (ці на 21,7%) менш за налічаную сярэднюю зарплату. У Мінскай вобласці розніца склала каля 1 мільёна 600 тысяч рублёў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КАМЕНТАР У ТЭМУ

### Чаму беларусы часта не давяраюць афіцыйнай статыстыцы па зарплатах?

– У большасці людзей заробак ніжэйшы за сярэдні, таму існуе недавер да афіцыйнай статыстыкі, – адказвае кіраўнік праекта "Кошт урада" **Уладзімір Кавалкін**. – Што тычыцца медыяннай зарплаты, яна заўсёды ніжэйшая за сярэднюю ва ўсіх краінах.

# "РГ" узнагародзіла пераможцаў конкурсаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Урачыстасць для ўдзельнікаў акцыі "Рэгіянальнай газеты" для настаўнікаў і школьнікаў рэгіёна падрыхтавалі работнікі рэдакцыі разам з вядучымі курсаў "Мова нанова" ў Маладзечне.**


Фота Настассі РОЎДЫ.

Галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" ўручае падарункі ўдзельнікам конкурсу эсэ.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Дырэктар маладзечанскай школы №5 Яўген Макарэвіч, сябра журы конкурсу для настаўнікаў.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Пераможца конкурсу "Атрымай электронную кнігу за лепшы план урока" настаўніца гімназіі-каледжа мастацтваў у Маладзечне Галіна Крупенчык.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Пераможца конкурсу "Напішы эсэ і выйграй смартфон" Сняжана Захарэвіч з Людвінова зачытвае сваю працу.

Узнагароджанне зладзілі проста падчас курсаў беларускай мовы, 1 сакавіка. Тэмай заняткаў якраз была "Школа".

Арганізатар абодвух конкурсаў **Зоя Хруцкая** распавяла, што адзінае беларускамоўнае выданне Павілля не магло не падтрымаць родную мову ў сферы адукацыі. Менавіта таму праз конкурс газета імкнулася падтрымаць і настаўнікаў, якія праводзяць урокі па-беларуску, і стымуляваць вучняў пісаць па-беларуску.

У конкурсе "Напішы эсэ і выйграй смартфон" удзельнічалі вучні ад 4 да 11 класа. Даваць ацэньваць іх работы журы "РГ" палічыла некарэктным. Таму аўтараў чакалі адразу два выпрабаванні: напісаць эсэ і арганізаваць сваіх знаёмых, каб перамагчы па выніках галасавання на нашым сайце rh.by.

Пераможцай стала васьмікласніца **Сняжана Захарэвіч** з Людвінова. Яна зачытала сваё эсэ пра дзень, які змяніў жыццё дзяўчынкі. Падарунак пераможцы ўручыў галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" **Аляксандр Манцэвіч**. Дзяўчынка атрымала смартфон. Як пасля сказала яе мама, цяпер Сняжане будзе зручна чытаць з тэлефона кнігі. Яна шмат чытае з цяперашняй прылады, але тэлефон з маленькім экранам, таму не вельмі зручны.

У Сняжаны вялікая сям'я, а знаёмыя галасавалі з розных пунктаў Зямлі, напрыклад, з Гоа.

Рэдакцыя запрасіла на ўрачыстасць усіх удзельнікаў конкурсаў, каб крыху бліжэй пазнаёміцца з імі. Аляксандр Манцэвіч уручыў нататнікі прысутным конкурсантам і кожнаму пажадаў поспехаў.

Сябра журы конкурсу "Атрымай электронную кнігу за лепшы план урока" **Яўген Макарэвіч** адзначыў важнасць таго, каб матываваць настаўнікаў працаваць творча і праводзіць урокі на роднай мове. Падзяліўся і тым, што засмуціла – сярод васьмі дасланых планаў урокаў настаўнікаў усе яны – па беларускай мове. Хочацца, каб і іншыя прадметы выкладалі на роднай мове.

Пераможцай па выніках сумавання балаў журы стала настаўніца гімназіі-каледжа мастацтваў **Галіна Крупенчык**. Яна падзялілася, што на конкурс яе план даслала дачка, таму што ў настаўнікаў заўсёды бракуе часу. Пажадала маладым настаўнікам не "адпрацоўваць", а вучыць, каб пасля было каму вучыць нашых унукаў.

Галіна Крупенчык атрымала ў падарунак ад Аляксандра Манцэвіча электронную кнігу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вырашылі, у гонар каго назавуць новыя вуліцы

ВІЛЕЙКА

Сесія раённага Савета дэпутатаў адбылася 26 лютага. Адно з пытанняў на ёй было "Аб назве вуліц Вілейкі".

Як назваць чатыры вуліцы ў новым раёне індывідуальнай жылой забудовы "Паўночны-4", вырашалі з дапамогай віляйчан. На выбар прапаноўвалі восем кандыдатур. Віляйчане маглі прагаласаваць па тэлефоне ці ў інтэрнэце, у тым ліку на нашым сайце.

Найбольш галасоў падалі за паэтку, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, грамадскага дзеяча, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі **Ганну Новік – 39**; народнага паэта Беларусі **Максіма Танка – 30**; краязнаўцу, даследчыка гісторыі Вілейшчыны і Беларускага Павілля, інжынера-энергетыка **Анатоля Рогача – 26**; педагога, паэта, публіцыста, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі **Івана Лашутку** – 24.

Дэпутаты раённага савета прагаласавалі за гэта рашэнне.

Пры падліках улічваліся галасы, якія аддалі чытачы і наведнікі сайта "Рэгіянальнай газеты". На сайце "РГ" таксама лідзіравалі названыя вышэй чатыры кандыдатуры. Вынікі на дзень заканчэння галасавання на нашым сайце былі такія: Ганна Новік – 28 галасоў, Максім Танк і Іван Лашутка – па 17, Анатоль Рогач – 15.

Астатнія чатыры прэтэндэнты атрымалі прыкметна менш галасоў нашых чытачоў: **Уладзіслаў Страмінскі** – 9, **Міхаіл Казінец** – 7, **Іван Кандрацьеў** – 4, **Аляксандр Азончык** – 2.

– Цяпер будзе магчымасць прысвоіць юрыдычны адрас зямельным участкам для пабудовы індывідуальнага жылога дома ў раёне "Паўночны-4" – напрыклад, вуліца Анатоля Рогача, 1, – тлумачыць начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама **Галіна Кажарновіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Як зэканоміць на "камуналцы"

## Мяняем лямпачкі на святлодыёдныя і ставім на краны аэратары

**Павышэнне цэн на камунальныя і іншыя паслугі многіх прымусіла задумацца, як жа можна зэканоміць.**

Адмыслова для іх консультант па рэсурсаі энергазберажэнні Цэнтра экалагічных рашэнняў з Мінска **Антон Гаховіч** раскажа пра прыборы і звычкі, якія дазволяць зменшыць штомесячныя плацяжы за "камуналку".



Фота svetodar.com.

Эканомія зменшыць цану на камунальныя паслугі.

### Прыборы, што дапамогуць эканоміць

**Аэратар** – гэта насадка, якая накручваецца на кран для эканоміі вады. Прылада дадае у струмень вады паветра. Такім чынам, вады выліваецца нашмат менш.

Эканомія пачынаецца з моманту ўстаноўкі. Аэратар не патрабуе спецыяльнага догляду: адзін-два разы на год яго трэба адкручваць і мыць ад накіпу.

Цана: у Беларусі – у сярэднім 120 тысяч рублёў (у кітайскіх інтэрнэт-крамах падобныя прадаюцца ад аднаго долара). У Польшчы каштуе два долары. Пакуль што, лепш за ўсё купіць у Еўропе – там і якасць, і працаздольнасць гарантуюцца. Так, напрыклад, шведскі аэратар каштуе тры долары, але беражэ да 40 працэнтаў вады. Неўзабаве гэтыя рэчы будуць і ў Беларусі ў шырокім доступе.

Перыяд акупнасці: адзін месяц.

**Святлодыёдныя лямпы.** Яны атрымліваюцца больш эканомнымі ў 10 разоў, чым лямпа напальвання. Тэрмін службы такой лямпы вельмі вялікі, па заяве вытворцаў – да 30-50 тысяч гадзін. Гэтыя лямпы практычна не грэюцца, дарма растрачваючы энергію.

Цана: у правераных вытворцаў у залежнасці ад магутнасці – ад 60 тысяч за пяць ват да 120 тысяч за 10 ват.

Перыяд акупнасці: год у параўнанні з лямпамі напальвання.

**– Ці варта зэканоміць і набыць танныя кітайскія лямпачкі?**

– Не варта. Як правіла, пачынае кульгаць якасць, і дыёды могуць згарэць. Якасць вытворцы вы можаце ацаніць на сайце lamptest.ru.

**Датчыкі руху.** Гэта электронныя прыборы, якія рэагуюць на рухі чалавека аўтаматычным уключэннем і выключэннем святла. Устаноўка такіх прыстасаванняў эфектыўная ў калідорах і прахадных памяшканнях. Добры спосаб эканоміі электраэнергіі для тых, хто асабліва забыўлівы. Ідэальна падыходзіць для тых выпадкаў, калі ўстаноўленыя лямпы напальвання.

Цана: ад 100 тысяч рублёў. Перыяд акупнасці: 7 месяцаў.

**Энергаметр.** Прылада, прызначаная для вымярэння і кантролю спажывання электраэнергіі. Сам прыбор эканоміі не прыносіць, аднак дапамагае знайсці лішнія выдаткі, якія зможаце паменшыць. Вам дастаткова ўключыць бытавы прыбор у разетку праз энергаметр, які пакажа, колькі ват энергіі спажываецца. Так лёгка можна знайсці найбольш затратныя прыборы ў доме ці прыборы, якія працуюць у спячым рэжыме.

Цана: ад 200 тысяч рублёў. Перыяд акупнасці: 14 месяцаў.

### Звычкі для эканомных

**Выключайце з разетак ўсе прыборы, калі не карыстаецеся.** У доме заўсёды ёсць прыборы, якія спажываюць энергію ў спячым рэжыме. Часцей за ўсё кожны прыбор цягне 5-10 ват, аднак за месяц гэта можа выліцца ў 10-20 КВт/г электраэнергіі. Адпаведна зэканоміць гэтыя кілаваты нескладана – дастаткова выключыць прыбор з разеткі.

**Пластыкавая шклянка замест струменя вады.** Калі падчас чысткі зубоў трымаць кран адкрытым, выцеча прыкладна 10 літраў. У год атрымаецца 7200 літраў. Са шклянкай ж расход складзе паўтары сотні літраў у год. Выкарыстанне шклянкі дазволіць зэканоміць больш за сем "кубоў" вады ў год.

**Душ замест ванны.** За адзін прыём ванны расходуецца 200-250 літраў вады. Калі абмяжуеце сябе душам, можна скараціць расход на 100 літраў і больш. Калі вы мыецеся ў душы больш за 10 хвілін, то ванна будзе больш выгадней: за адну хвіліну неэканомная палівачка душа марнуе каля 25 літраў. Аднак існуюць эканамічныя душавыя палівачкі са спажываннем вады да дзевяці літраў у хвіліну.

**Пры набыцці тэхнікі звяртайце ўвагу на энергаэфектыўную маркіроўку.** Замест састарэлых "С" або "D" зрабіце выбар на карысць экалагічнай "А" або "А +". Паколькі кожны прыбор павінны мець маркіроўку, то і эканомію неабходна лічыць на кожны. У цэлым "А +" больш эканамічна за "С" на 30%. Такім чынам і выдаткі можна паменшыць у такой жа прапорцыі.

Скараціць спажыванне электраэнергіі можна пры эксплуатацыі любога бытавога прыбора. Напрыклад, пры эксплуатацыі пральнай машыны можна пераглядзець рэжымы мыцця. Асноўнае энергаспажыванне ідзе пры нагрэве вады. А ці трэба яе моцна награваць пры мыцці, калі рэчы не асабліва забруджаныя.

**Купляйце менш непатрэбных прыбораў.** Часцяком розныя гаджэты мы выкарыстоўваем вельмі рэдка, а часам можам увогуле ад іх адмовіцца. Шмат непатрэбных рэчаў можна знайсці на кухні, напрыклад ёгуртніцы і яйкаваркі.

**Правільна абслугоўвайце прыборы.** Многія з нас забываюць даглядаць за бытавымі прыборамі. Напрыклад, чайнік з накіпам марнуе на нагрэў вады да 30% больш. Рэгулярная чыстка дазволіць чайніку награваць ваду без перашкод. Тое тычыцца і пральнай машыны. У выпадку, калі ў вас забруджанае дно патэльняў, вы гэтак жа марнуеце больш энергіі на прыгатаванне ежы. Лямпачкі і плафоны неабходна перыядычна чысціць ад пылу, а калі пастаянна мыць вокны, то вы атрымаеце больш сонечнага святла.

Алесь ВЫСОЦКІ.



**Сваім досведам эканоміі дзеліцца наведнік нашага сайта Юры Крэнь – ураджэнец Ільі, які цяпер жыве ў Магілёве:**

– Галюся, набраўшы вады ў кубак, а не з-пад крана, як раней было. Пральную машыну ўключаем толькі пры поўнай яе загрузцы. Ва ўсёй кватэры карыстаемся толькі святлодыёднымі лямпачкамі.

На сходзе вырашылі ўвесці ў карыстанне лічыльнікі цяпла. Такія былі ўсталяваныя ў кожнай кватэры дома, але не мелі ў горадзе арганізацыі, якая абслугоўвала тыя лічыльнікі. Цяпер такая з'явілася. Знаёмыя, што ўжо карысталіся у мінулым сезоне лічыльнікам цяпла, зэканомілі ад 400 да 600 тысяч рублёў па тагачасных тарыфах.

Юры Крэнь лічыць, што эканоміць цяпер мусяць усе:

– Доля "камуналкі" ў сямейным бюджэце важыць зараз значна болей, чым хаця б месяц таму. У нас аплата жыллёва-камунальных паслуг за трохпакаёўку плошчай 88 квадратных метраў, дзе чацвёра зарэгістраваных, за снежань была 460 тысяч рублёў. А за студзень – 700 тысяч. Мы эканомілі б рэсурсы і без павышэння тарыфаў, бо аднаўляльных рэсурсаў не так ужо і шмат у свеце, а сумленне мець кожны павінны. Але ж перадусім кожны, мяркую, хацеў бы і мае права на свае вочы бачыць ды мець магчымасць уплываць на размеркаванне рэсурсаў у маштабах краіны, вобласці і свайго паселішча.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.02 руб. | 3.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 21 610,00 | **21 275,00** |
| Еўра | 23 834,00 | **23 094,00** |
| Злоты | 5 451,36 | **5 334,45** |
| Расійскі рубель | 284,72 | **288,85** |
| Грыўня | 794,49 | **785,49** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 3.03** | | |
| Еўра | 23400/23850 | **22900/23200** |
| Долар ЗША | 21300/21700 | **21150/21350** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 24.02 Цана руб. | 2.03 Цана руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 169 000 | **169 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 43 800 | **43 800** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **47 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 500 | **17 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 000 | **16 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **6 900** |
| Часнок, 1 кг | 64 000 | **65 000** |
| Капуста, 1 кг | 5 500 | **5 500** |
| Морква, 1 кг | 6 900 | **6 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 78 000 | **68 000** |
| Лімоны, 1 кг | 43 000 | **43 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 000 | **27 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 30 000 | **28 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 23 500 | **26 500** |
| Ківі, 1 кг | 34 000 | **33 500** |
| Буракі, 1 кг | 6 500 | **5 500** |
| Памідоры, 1 кг | 30 000 | **39 900** |
| Агуркі, 1 кг | 45 000 | **37 500** |
| Перац, 1 кг | 70 000 | **89 900** |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 23 000 | **25 000** |
| Хурма, 1 кг | 28 000 | **28 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 900 | **14 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 30 000 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **3 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Больш чым па мільёне рублёў за кілаграм

**ВІЛЕЙКА**

У столькі абышлася жыхару Вілейшчыны незаконна здабытая рыба

"Рэгіянальная газета" паведамляла, што напачатку студзеня супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету затрымалі 29-гадовага жыхара Вілейскага раёна. Ён з выкарыстаннем сеткі незаконна здабываў рыбу.

Адбылося гэта на Вілейскім вадасховішчы паблізу вёскі Нясцёркі. Налавіў мужчына 33 кілаграмы рыбы: 26 срэбных карасёў, 10 судакоў, 5 ляшчоў і 4 шчупакоў. Па гэтым факце ўзбудзілі крымінальную справу.

Суд Вілейскага раёна разгледзеў яе 5 лютага. Мужчыну прызналі вінаватым у здабычы рыбы забароненымі прыладамі і спосабамі, якая прывяла да прычынення шкоды ў буйным памеры, паведаміла вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна **Таццяна Ткачова**. Жыхар Вілейшчыны – раней не судзімы. Прызначылі яму пакаранне – штраф амаль у 20 мільёнаў рублёў. Таксама спагналі ў даход дзяржавы ў пакрыццё прычыненай шкоды каля 14 мільёнаў рублёў і дзяржаўную пошліну – амаль 700 тысяч рублёў.

Мужчыну далі месячны тэрмін з дня ўступлення прысуду ў законную сілу для добраахвотнай выплаты штрафу і кампенсацыі шкоды.

Прысуд абскарджаны і апратэставаны не быў і ўступіў у законную сілу.

**Аддзел інфармацыі.**

# Вінаватая сваім дзецям 70 мільёнаў

**ВАЛОЖЫН**

*Жанчына больш за два гады не плаціць сваім дзецям аліменты.*

Як распавяла следчая Валожынскага райаддзела Следчага камітэта **Аксана Сагадзін**, жыхарку вёскі Русакі на Валожыншчыне пазбавілі бацькоўскіх правоў у 2009 годзе. Яе двое дзяцей, 10-гадовы хлопчык і 12-гадовая дзяўчынка, трапілі ў прыёмную сям'ю.

10-гадовы хлопчык і 12-гадовая дзяўчынка не атрымліваюць аліменты ні ад маці, ні ад бацькі.

У лістападзе 2013 года жанчына перастала плаціць аліменты. За гэты час сума вырасла да 68 мільёнаў.

Як зазначае следчая Аксана Сагадзін, жанчына выйшла з турмы, уладкавалася на працу, але не ходзіць туды. Яна не наведвае сваіх дзяцей, не цікавіцца іх жыццём.

Следчая таксама дадае, што бацька гэтых дзяцей таксама пазбаўлены бацькоўскіх правоў і вінаваты амаль такую ж суму па аліментах.

Абвінавачанай жанчыне за нявыплату аліментаў пагражаюць выпраўленчыя работы да двух гадоў, абмежаванне волі да трох гадоў ці пазбаўленне волі да аднаго года.

**Аддзел інфармацыі.**

## Замок адкрываўся лёгка, таму зламыснікі двойчы вярталіся красці... закаткі

**ВАЛОЖЫН**

Халоднай зімовай раніцай 27 снежня двое мужчын, аматараў выпіць, стаялі ля валожынскага рынку з думкамі пра тое, з кім і за якія грошы выпіць.

Праз тры гадзіны бессэнсоўнага стаяння аднаго з іх асяніла думка.

– У мамы маёй у падвале захоўваюцца закаткі: памідоры, агуркі. Іх жа можна памяняць на гарэлку, – сказаў сын гаспадыні і павёў сябра ў свой падвал.

Замок у падвале адчыніўся лёгка. Трэба было толькі пальцам падпіхнуць клямку.

Вынеслі 10 слоікаў, памянялі на самагон. Выпілі.

На раніцу сябру гаспадара закаткі не давала спакою думка, што замок у падвале так лёгка адкрываецца, а закаткі там яшчэ безліч.

Узяў іншага таварыша і накіраваўся да падвала. Вынеслі яшчэ 10 слоікаў, потым вярнуліся за здабычай ізноў...

Гаспадыня выклікала міліцыю. Валожынскі РАСК узбудзіў крымінальную справу па артыкуле "Паўторны крадзеж, здзейснены групай асоб".

– Бабуля, што выклікала міліцыю, плача, скардзіцца, – расказвае старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**, – маўляў, яна цэлае лета працуе на агародзе, а тут нейкія сволачы крадуць. Праўда, пра тое, што сын і паказаў месца, дзе ўзяць закаткі, маўчыць. Скрадзенае вернутае гаспадыні. Жанчына харошая, шкадуе зладзеяў. Але пакуль заяву не забрала, а гэта значыць, што сябрам сына можа пагражаць да чатырох гадоў зняволення.

**Наталля ТУР.**

**ЗДАРЭННІ**

## На пажарах загінулі людзі

**ВІЛЕЙКА**

Ранкам 27 лютага паступіла паведамленне аб пажары на хутары Старынка Хаценчыцкага сельсавета.

Загаранне заўважылі жыхары суседняй вёскі Карпавічы. Яны паведамілі выратавальнікам, што бачна зарава ў тым баку.

Пасля ліквідацыі пажару ў доме знайшлі моцна абгарэлыя астанкі чалавека.

Прычына пажару высвятляецца. Папярэдняя версія – неасцярожнасць пры абыходжанні з агнём. Пра ўсё гэта расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў**.

**МЯДЗЕЛ**

Адбылося гэта ў вёсцы Княгінін. Каля пяці гадзін раніцы 19 лютага паступіла паведамленне аб пажары на першым паверсе двухпавярховага дома.

Качагар амбулаторыі выйшаў на вуліцу і заўважыў загаранне ў доме. Выклікаў выратавальнікаў, пабудзіў суседзяў, расказаў інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш**.

Калі патушылі пажар, знайшлі ля ложка цела 60-гадовага гаспадара, пенсіянера. У кватэры выгараў адзін пакой, пашкоджаны іншы.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні.

## Валожынец скраў дзве курткі і паліто ў сужытніцы

**ВАЛОЖЫН**

Крымінальная гісторыя здарылася ў Валожыне напярэдадні ці ў першыя дні Новага года.

Жанчына пасварылася са сваім сужыцелем і з'ехала ад яго, пакінуўшы ў кватэры мужчыны сваю маёмасць.

Калі ж праз некаторы час прыйшла забіраць рэчы, не далічылася сваёй курткі і паліто, а таксама курткі сваёй дачкі.

Аказалася, што мужчына выменяў верхняе адзенне на гарэлку.

Адну куртку і паліто знайшлі і вярнулі ўладальніцы.

Справа перададзеная пракуратуры для накіравання ў суд.

Гісторыю расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Ішоў на рыбалку і праваліўся пад лёд

**МЯДЗЕЛ**

Каля васьмі гадзін раніцы 25 лютага жанчына паведаміла выратавальнікам пра тое, што на возеры Мястра ў палонцы знаходзіцца чалавек.

Адбылося гэта непадалёку ад будынка дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы ў цэнтры Мядзела.

Да месца выкліку накіраваліся работнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях, выратавальнай станцыі, што знаходзіцца ў 800-х метрах, брыгада "хуткай дапамогі".

Чалавек знаходзіўся ў 300-х метрах ад берага. Матарыст-рулявы выратавальнай станцыі "Мядзел" **Міхаіл Каўрус** з дапамогай вяроўкі выцягнуў 54-гадовага мядзяльчаніна з палонкі.

На бераг яго даставілі на выратавальнай дошцы супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях і перадалі брыгадзе "хуткай дапамогі". Медыкі агледзелі мужчыну: шпіталізацыя яму не спатрэбілася, распавяла інспектар групы прапаганды і навучання райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ірына Карапецян.**

– Мядзяльчанін ранкам ішоў на рыбалку. У прыцемках не заўважыў прамоіну, якая ўтварылася на возеры і за ноч зацягнулася тонкім слоем лёду. Праваліўся і стаў клікаць на дапамогу, – расказаў пра акалічнасці здарэння начальнік выратавальнай станцыі "Мядзел" **Дзмітры Мялешка.**

## У Ільы абакралі мінчаніна, пакуль той спаў

**ВІЛЕЙКА**

У Ілью прыехаў 49-гадовы мінчанін. Ён захацеў праведаць дачку, якая вучыцца ў мясцовым каледжы. Бацька жыве асобна і не ведаў, што яна з'ехала на канікулы.

Мінчанін вырашыў дачакацца панядзелка, калі дачка павінна прыехаць. На адну ноч яго прытулілі адны гаспадары, на другую знайшоў прытулак у іншым доме.

Мужчына удзень 5 лютага заснуў. Па яго словах, калі прачнуўся ля апоўначы, убачыў свой партаманет на стале ўжо без грошай. Патлумачыў, што раней партаманет быў у курткі, што ляжала ў доме. Зніклі 150 долараў ЗША і паўтара мільёна беларускіх рублёў. Слядоў узлому дома не было.

Пра ўсё гэта расказаў старшы следчы Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Уладзімір Занкавіч**.

Крымінальную справу за крадзеж узбудзілі 18 лютага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# ліТпарад Павілля




# ліТФАКТЫ Мядзельшчыны

**Як імя Янкі Купалы звязанае з Мядзельшчынай? Хто з ураджэнцаў гэтага краю адным з першых атрымаў медаль Францішка Скарыны? Памяці якога вясковага настаўніка прысвяціў аповесць "Абеліск" Васіль Быкаў? І нарэшце, хто з мядзельцаў стаў прататыпам палымянага збіральніка фальклору ў творы Уладзіміра Караткевіча "Чорны замак Альшанскі"?..**
**Ад бясконцасці літаратурных фактаў, звязаных з азёрным краем, проста губляешся. І ўсё ж, паспрабую прывесці інфармацыю ў нейкую сістэму. І так…**

**На Мядзельшчыне…**

- нарадзілася Паўліна Мядзёлка – першая выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы
- жыў і працаваў Мікола Пашкевіч – настаўнік беларускай мовы і літаратуры, памяці якога Васіль Быкаў прысвяціў сваю аповесць "Абеліск"
- нарадзіліся Генадзь Шупенька – навуковец, літаратуразнавец, крытык, перакладчык, які адным з першых быў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны; і Міхась Чарняўскі – гісторык, археолаг, мастацтвазнаўца, пісьменнік, кандыдат гістарычных навук, які стаў прататыпам вобраза аднаго з герояў кнігі Уладзіміра Караткевіча "Чорны замак Альшанскі" – Мар'яна Пташынскага
- нарадзіўся народны паэт Беларусі Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко), імя якога сёння носіць Сваткаўская сярэдняя школа і раённая бібліятэка Мядзела. А першы помнік паэту быў адкрыты ў Мядзеле ў 2014 годзе
- нарадзіліся паэт, рэжысёр, драматург Яўген Шабан, пісьменнікі Адам Гурыновіч (сёння яго імя носіць Слабадская сярэдняя школа), Францішак Каравацкі, Мечыслаў Шаховіч, Адольф Варановіч, Уладзімір Місун, Аркадзь Нафрановіч, Вячаслаў Лапцік, Мар'ян Дукса, Іосіф Скурко, Мікола Шабовіч, Валеры Хіхіч, Тамара Кручэнка, Наталля Казапалянская
- вучыўся паэт Уладзімір Дубоўка, і сёння Мядзельская сярэдняя школа №1 названая іменем творцы;
- мелі свае лецішчы пісьменнікі Аркадзь Куляшоў і Міхась Лынькоў
- сёння жывуць і працуюць паэты, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандр Быкаў і Павел Жукаў, член Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Маскевіч
- паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Рагнед Малахоўскі падрыхтаваў да выдання дзве новыя кнігі, якія выйдуць у хуткім часе: "Кахання радок" – выключна вершы пра каханне і "Гатаўскія ямы" – новыя і выбраныя творы, а таксама пераклады
- па словах кіраўніка Мядзельскай раённай бібліятэкі імя Максіма Танка Таццяны Нырцовай, чытачоў Мядзельшчыны сёння абслугоўваюць 22 бібліятэкаркі



# ліТПАРАДА ад Міколы Шабовіча

Паэтам пачынальнікам жадаю максімальных поспехаў у любімай справе, а таксама

- Знайсці сваю тэму і сябе ў ёй
- Быць адказнымі за кожнае сваё слова
- Не адчайвацца, калі шлях да поспеху будзе не такі і кароткі...

## Мікола Шабовіч

Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Бадзені Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

Беларускі паэт, паэт-перакладчык, паэт-песеннік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі (1998), педагог, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка (2008).

У 1981 годзе скончыў філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Горкага, працаваў пяць гадоў у школе на Вілейшчыне (у в. Шыпкі). Пасля заканчэння аспірантуры выкладае родную мову ў БДПУ імя Максіма Танка.

Друкуецца з 1976 года. Аўтар паэтычных зборнікаў "Дом" (1996), "Яшчэ пакуль не лістапад" (1996), "Падары мне сваю адзіноту" (2002), "Мая надзея" (2006), кніг гумару "Хор болей не спявае", адзначанай рэспубліканскай літаратурнай прэміяй "Залаты Купідон" як лепшая кніга 2008 года ў намінацыі "сатыра і гумар" і "Прыколы ад Міколы"(2015).

На вершы Міколы Шабовіча напісана больш як 170 песень.

***

Да новае стрэчы!
Да казачна-новай вясны!
Усё недарэчы:
Жаданні, і мары, і сны.

Усё мімалётна,
А ты паспрабуй затрымай
І студзень сумётны,
І ў квецені сонечны май,

І ночы сваволі,
І дзён залатыя віры,
Што столькі патолі
Дарылі – і ты падары

Радзіме – адданасць,
Бацькам – дабрыню і любоў,
Сябрам – беззаганнасць
Учынкаў, памкненняў і слоў.

А дзецям і ўнукам,
Калі пасачылі цябе,
Пакінь без прынукі
Усё, што нясеш на гарбе:

І плуг, і лапату,
І працы сялянскай сакрэт,
І бацькаву хату,
Што сына выводзіла ў свет.

І вершы-прызнанні
Радзіме, матулі і ўсім,
Хто ўвечар і ўранні
Цябе ў сваім сэрцы насіў.

Скажы ім: "Да стрэчы!
Да казачна-новай вясны!" –
Калі недарэчы
Жаданні, і мары, і сны.

***

Я думаў, што ты забылася,
А ты, нібы сон, збылася,
У сэрца маё ўсялілася,
У мары мае ўжылася,

Бы казка спакусна-дзіўная,
Што скончыцца не жадае,
Апошняя і адзіная,
Няўрымслівa-маладая.

Сваёй недасяжнай цнотаю
Мяне ты і сёння грэеш,
Джаконда мая самотная,
Я веру, што не старэеш.

Я веру, што ты шчаслівая,
Сваю саграваеш Меку,
Як сонейка зіхатлівае,
Якому свяціць давеку.

І хоць мы з табой не вечныя,
Мо стрэнуцца сцежкі ў полі…
Як колісь, у дні сустрэчныя,
Жадаю Святла і Долі.

***

Я спаткаю цябе на вакзале,
Толькі ты прыязджай хутчэй.
І, нібыта ў таемнай зале,
Да тваіх прыпаду плячэй.

Буду піць з тваіх воч патолю
І хмялець ад твайго цяпла,
Не жадаючы лепшай долі, –
Толькі б ты у мяне была

І тады, як душа спявае
І радок узлятае ўвыш,
І тады, як журба ліхая
Працінае, нібы скавыш…



## Даната Варабей

Даната Варабей нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Заўруткі Мядзельскага раёна. Закончыла Мінскае вучылішча будаўнікоў №114 і Барысаўскі палітэхнікум. Працуе інжынерам у Мядзельскім бюро маладзечанскага філіяла РУП "Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры". Вершы піша са школьных гадоў. Друкавалася ў мядзельскай раённай газеце "Нарачанская зара", у рэспубліканскім штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва".

***

Кім, скажы, для цябе мне быць:
Ці вясёлкай, ці снегам белым?
Можа, хмаркай па небе плыць?
Можа, ўпасці яблыкам спелым?
Буду зоркай табе ўначы,
Буду сонейкам найвысокім.
Буду рэчкай ціхутка цячы,
Летнім днём ратаваць ад спёкі.
Буду кропляй жывой вады,
Каб ты, стомлены, змог напіцца.
Буду хлебам-соллю, каб ты
Мог заўсёды удосталь жывіцца.
Буду мёдам на вуснах тваіх,
Буду хмелем ці ружай калючай.
А каб раны твае зажывіць,
Разліюся крыніцай гаючай.
Матыльком на тваім плячы
Ў белым вальсе з табой закружуся.
Кім яшчэ можна быць, скажы?
А не быць – вось чаго баюся.

***

Каб у душы не згас агонь,
А у вачах іскрынкі,
Шануйце, любыя, свае
Другія палавінкі.

Шануйце летам і зімой,
Шануйце днём і ноччу.
Ступайце сцежкаю адной
І ў бок з яе не збочце.

Каб мець надзейнае плячо
І ў радасці, і ў горы,
Быць побач праз усё жыццё,
Лічыць на небе зоры,

Каб разам марыць і лавіць
Шчаслівыя хвілінкі,
Шануйце, любыя, свае
Другія палавінкі.

***

Злятае з дрэў апошні жоўты ліст,
І сумна нам ад гэтага бывае.
І забывае ноты гарманіст,
І словы песні нехта забывае.

Усё часцей марозы па начах
І засціláюць хмары неба просінь.
Чароўны май бывае толькі ў снах…
А вецер штосьці жаласна галосіць,

Нібыта зноў вярэдзіць успамін
Аб днях былых, аб хуткацечным леце.
Шчаслівы той, хто будзе не адзін
На нашай добрай, велічнай планеце…

Хай адпачне вясковы гарманіст.
Вось-вось зіма свае напіша ноты…
Злятае з дрэў апошні жоўты ліст,
Напоўнены часцінкамі самоты…




Фота Надзеі АЎДЗЕЙ

Вольга Пескавая на адкрыцці выставы.

## У Вілейцы паказваюць "стыхійны парыў" мастачкі

ВІЛЕЙКА

**У выставачнай зале імя Сіліванові́ча 26 лютага адкрылася выстава "Высакосны год" маладой мастачкі з Вілейкі Вольгі Пескавой. На адкрыццё завіталі жыхары і госці горада.**

На выставе прадставілі шмат прац графікі, выкананых у накірунку сюррэалізм, а таксама фактурныя фотаздымкі і інсталяцыі.

Вольга нарадзілася ў Вілейцы. Скончыла сярэднюю школу №1 і прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Працуе прадаўцом.

– Досвед Вольгі ў мастацтве не выйшаў за межы школьных урокаў малявання. Але гэта не спалохала дзяўчыну, а падштурхнула да дзеяння, і яна пачала рабіць першыя крокі ў мастацтве, – прыгадвае навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Спрабавала сябе ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, але поўнай рэалізацыі не адчула. І тады надышоў час выказаць сваю творчасць у іншых мастацкіх накірунках.

Гэта другая персанальная выстава Вольгі. Першая адбылася тут жа амаль два гады таму. Тады Вольга пераважна працавала з больш прыбліжанымі да акадэмічнага жывапісу матэрыяламі. Цяпер яна імкнецца шукаць свой накірунак у мастацтве.

– Сваю творчасць Вольга характарызуе як стыхійны парыў. Карціны яна не малюе дзень, два, а ўсяго некалькі гадзін. На аркушы паперы з'яўляюцца выцягнутыя твары, геаметрычныя фігуры, вобразы і праявы, – працягвае Надзея Аўдзей. – Апрача графікі, Вольга займалася манатыпіяй. На выставе прадставіла дзве працы гэтага кірунку. Не так даўно Вольга пад уражаннем ад творчасці брытанскага мастака **Эндзі Голдсуорці** пачала ствараць інсталяцыі з прыродных матэрыялаў. На абмежаванай прасторы злучаюцца пераплеценыя дроту, галінак, каменьчыкаў – у выніку з'яўляецца ландшафтнае мастацтва ў мініяцюры.

Выстава "Высакосны год" працягнецца да сярэдзіны сакавіка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".**
**Манатыпія** – від друкаванай графікі. Атрыманы на паперы адбітак заўсёды бывае адзіным, унікальным.

# Паэт, народжаны пад сценамі Крэўскага замка

МАЛАДЗЕЧНА

**27 лютага ў Маладзечне адбылася сустрэча з грамадскім дзеячам, паэтам, членам Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімірам Някляевым.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Паэт Уладзімір Някляеў.

– Дзякуй, землякі, за тое, што прыйшлі! – прывітаў сваіх прыхільнікаў Уладзімір Пракопавіч. А пасля акінуў вокам залу і дадаў: – Цікава, што на літаратурнай сустрэчы мужчын куды больш, чым кабет. Але кабеты – прыгожыя!.. – так шчыра і проста пачалася размова з творцам.

З цеплынёй ўзгадаў Някляеў роднае Крэва на Смаргоншчыне. Нараджэнне пад сценамі Крэўскага замка, дзе ў свой час вяршыліся значныя падзеі з гісторыі Бацькаўшчыны, прадвызначыла шлях Уладзіміра Някляева – літаратара і грамадскага дзеяча, сапраўднага патрыёта.

Пошук сябе і свайго месца ў жыцці быў нялёгкім: бацька хацеў, каб хлопец быў ветэрынарам, маці бачыла сына музыкантам і дзеля гэтага нават прадала карову і купіла баян. Але ні з музыкай, ні з ветэрынарыяй не атрымалася: юнака вабіла прафесія геолага.

Каб ажыццявіць сваю мару, будучы паэт пасля васьмі класаў пакінуў родную вёску і паехаў вучыцца ў Кіеў. Ды ў хуткім часе вярнуўся і паступіў вучыцца ў Мінск на радыёмеханіка.

– Але і радыёмеханіка з мяне не атрымалася, – з усмешкай прагавае паэт. – Законы, па якіх бегае ток, аказаліся неспасцігальнымі для мяне. Пасля трэцяга курса, вярнуўшыся дахаты, сказаў: "Усё! Не маё!"

А маці ў плач: "Сынок, ты ўжо, можа, хоць дзе-небудзь давучыся, бо ніхто ж не верыць, што ты сам сыходзіш. Думаю, што цябе адусюль выганяюць. Мне ж на вуліцу не выйсці!". Прыйшлося, каб маці магла выйсці на вуліцу, закончыць тэхнікум.

Але затое цяпер я ведаю, як працуе тэлевізар. Потым быў Літаратурны інстытут у Маскве, філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута (цяпер БДПУ імя Максіма Танка).

Шмат добрых успамінаў паэта звязана з Маладзечнам. Першая сустрэча Някляева з нашым горадам адбылася прыкладна ў канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя, калі будучы паэт прыехаў сюды разам з бацькам. У дзіцячай памяці захавалася, што назвы ўсіх крам і ўстаноў горада былі напісаныя на беларускай мове (і гэта ў савецкія часы!).

Ужо дарослым чалавекам, вядомым паэтам-песеннікам, які актыўна супрацоўнічаў з "Песнярамі" і "Верасамі", Уладзімір Пракопавіч часта бываў у Маладзечне: ён сябраваў з колішнім мэрам горада **Генадзем Карпенкам**, маладзечанцы з задавальненнем слухалі песні на словы Някляева, наведвалі яго аўтарскія вечарыны.

– Занятак літаратурай можа кампенсаваць многія недахопы ў жыцці. Тое, што ты не спраўдзіў у рэальнасці, ты заўсёды можаш спраўдзіць у сваіх творах, – упэўнены паэт.

Ягшчэ творца прызнаўся, што ва ўмовах распаўсюджання новых плыняў у літаратуры, ён ніколі не адмаўляўся ад традыцыйнага сілаба-танічнага верша. Хоць за мяжой яму даўно ўжо прапаноўвалі звярнуцца да постмадэрнісцкіх твораў на мяжы паэзіі і прозы (тады б і кніжкі выходзілі часцей), ён ніколі не пойдзе на гэта, бо тады страціцца музыка ў паэзіі ды і паэзія ўвогуле.

Уладзімір Пракопавіч чытаў свае лірычныя і патрыятычныя творы, урыўкі з паэмы "Паланэз". І ў гэтыя хвіліны, узбуджаная ранейшымі дыялогамі, зала заціхала, гледачы лавілі кожнае слова паэта, сачылі за кожным яго рухам.

...А пасля сустрэчы ў свядомасці яшчэ доўга гучалі словы нашага знакамітага земляка:

– Мы не павінны страціць сваю мову і сваю Радзіму! Хто тады будзе чытаць нашы вершы? Хто будзе чытаць Купалу, Барадуліна, Быкава?..

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пагуляйце ўсёй сям'ёй бясплатна ў настолкі

МАЛАДЗЕЧНА

Напярэдадні жаночага свята, 6 сакавіка, ад 13:00 да 17:00 у канферэнц-зале бібліятэкі "Верасок" можна наведаць гульнятэку.

Яе праводзіць спецыяліст па настольных гульнях **Генадзь Грыневіч.**

Арганізатары запрашаюць далучацца бацькоў з дзецьмі, пажадана школьнага ўзросту.

Як упэўнівае галоўны бібліятэкар залы замежнай літаратуры Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча **Таццяна Летунова**, будзе прапанавана шмат новых настолак: "Капялюш", "Джэнга", "Дзікія джунглі", "Свінтус", "Казачнік", "Эвалюцыя" і іншыя.

Упершыню настольныя гульні з'явіліся ў старажытным Егіпце. Пазней "гульняманія" захапіла і іншыя краіны. Змяняліся правілы, гульні, але сутнасць заставалася нязменнай. Гэта ўнікальны трэнажор для розуму, кемлівасці і эрудыцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Каралева прыгажосці з Лінэна" вачыма Андрыяна Барткевіча

МАЛАДЗЕЧНА

26 лютага народны тэатр "Метамарфозы" паказаў прэм'еру спектакля "Каралева прыгажосці" па п'есе **Марціна Мак Донаха.**

Для заўзятых маладзечанскіх тэатралаў гэты спектакль не ў навінку. У канцы лістапада з тым жа спектаклем прыязджаў гастраляваць Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа.

У цэнтры сюжэта – быт дзвюх адзінокіх жанчын: маці Мэг і дачкі Морын.

Разнастайнасць у іх штодзённую вайну ўносіць з'яўленне ў жыцці Морын мужчыны – Пата Дулі. Ён прапаноўвае Морын паехаць з ім у Амерыку, а маці аддаць у дом састарэлых.

Амаль апошнюю рэпліку ў абедзвюх версіях вымаўляе малодшы брат Пата Рэй:

– Вы ў гэтым крэсле дакладна як ваша нябожчыца-маці: камандуеце і блытаеце імёны.

Але розніца ў канцоўцы каласальная. Калі ў версіі коласаўцаў Морын так і застаецца сядзець у крэсле, то ў версіі **Андрыяна Барткевіча** Морын збірае рэчы, пераапранаецца ў модную сукенку і пакідае дом у Ірландыі.

70-гадовую маці Морын Мэг сыграла актрыса, вядомая па іншых пастаноўках "Метафарфозаў", – **Таццяна Кляміцiч.**

Адразу кідаецца ў вочы, што маці нашмат больш энергічная і жвавая, чым дачка.

– А гэта цалкам натуральна, – кажа рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Андрыян Барткевіч, – Морын жа месяц правяла ў псіхушцы. Вядома, яе псіхіка парушаная. Яна вяртаецца дадому, у глуш. І каб не з'явіўся ў яе жыцці Пата Дулі, яны разам з маці так бы і засохлі.

Андрыян Барткевіч прызнаўся, што п'есу віцебскага тэатра не бачыў.

– Я хацеў паказаць сваю, "мяккую версію". У арыгінале п'есы тут у на вачах у гледача Морын вылівае гарачае масла на руку, на галаву маці. У п'есе Морын забівае маці качаргой. Я не хацеў гэтага. Я ведаю, што наш глядач бы такога не прыняў.

Калі акцёры выходзяць на паклон, маці і дачка амаль у аднолькавых сукенках.

– Я не ведаю, ці заўважылі вы гэтую прапакацыю, але ўжо на паклоне маці і дачка сустракаюцца і абдымаюцца. Яны абавязкова даруюць адна адной, але ўжо не ў гэтым жыцці.

А галоўны пасыл спектакля, па словах рэжысёра, гучыць так: "Перастаньце грызціся са сваімі бацькамі і са сваімі дзецьмі. Мы адзін без аднаго нікуды".

**Наталля ТУР.**

# Не губляйце галавы

## Мастачка з Маладзечна Надзя Бука дэбютавала ў афармленні вокладкі кнігі

МАЛАДЗЕЧНА

**Таленавітая хуліганістая мастачка з Маладзечна, якая робіць тое, што сама лічыць правільным, а не тое, што нашэптваюць іншыя, дэбютавала ў афармленні вокладкі для кнігі Мікіты Найдзёнава "Развітанцы".**

**Буцінанка – гэта не выцінанка. Надзя наўмысна прыдумала гэтаму накірунку мастацтва такую сугучную назву. Буцінанка – таксама выразанне з паперы, але ў работах, зробленых у гэтай тэхніцы, няма сіметрыі, няма беларускіх сімвалаў, якія складаюць падмурак выцінанкі. У свеце ў падобнай тэхніцы шмат хто працуе, а ў Беларусі Надзя фактычна першапраходніца, паколькі вынесла яе ў асобную галіну мастацтва.**



Надзя Бука трымае зробленую ў выглядзе плаката вокладку кнігі Мікіты Найдзёнава "Развітанцы" – свой падарунак паэту на прэзентацыі зборніка вершаў.

Фота Настассі РОЎДЫ

"Імпрэзентацыя" кнігі адбылася 29 лютага ў Мінску ў выглядзе танцавальнай імправізацыі з вершамі і музыкай ад Мікіты.

**– Адкуль ідэя вокладкі "Развітанцаў"?**

– Гэта сапраўдная буцінанка, якая называецца "Не губляйце галавы". Яна цяпер выстаўляецца ў галерэі. На ёй выява дзяўчыны, якая згубіла галаву, а хлопец хавае яе ў сябе за спінай, бо яму гэта выгадна. Я намалявала і выразала гэту працу ў 2013 годзе. Да яе заўсёды ставіліся неадназначна. Мабыць, таму, што яна смелая, яркая. Я сама вельмі люблю яркія колеры. Па мне, мабыць, бачна, – усміхаецца мастачка.

У дзень прэзентацыі кнігі Мікіты Найдзёнава ў Мінску Надзя ў пярэстай сукенцы колераў вокладкі – чорны, сіні, чырвоны, белы.

– Не ўсім дзяўчатам, жанчынам гэта праца падабаецца. Мабыць, бачаць у ёй сябе. Кожная апынаецца ў такой сітуацыі. Калі Мікіта, мой даўні сябар, папрасіў зрабіць яму вокладку для дэбютнай кнігі, я доўга думала, што б магло падысці да слова "развітанцы". Узнікла пару ідэй, але ніводная не клалася на назву і змест. Тут ён мне тэлефануе і кажа: "Надзя, толькі што прагледзеў твае працы, і гэтая ну так падыходзіць! Хачу менавіта яе! Можна?" Пасля мой муж **Генадзь** дапрацаваў яе для вокладкі. Там кальцавая кампазіцыя, шлейф сукенкі праходзіць праз усю вокладку і заканчваецца напераздзе. Незвычайны ход, нетыповы для вокладак. У афармленні беларускіх кніг, што трапляюць мне ў рукі, не хапае фарбаў, смеласці. Мне асабіста падабаецца еўрапейская, шведская школа ілюстрацыі. Вокладка павінна быць простай, але яна мусіць чапляць. Як некалі амерыканскі мастак **Эндзі Уорхал** распрацаваў дызайн бляшанак "Кока Кола", якім захапляюцца дагэтуль.

**– Памятаеце сваю першую буцінанку?**

– Маёй першай настаўніцай па выцінанцы была **Вікторыя Мікітаўна Чырвонцава**. Я займалася ў яе, калі паступіла на аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў тагачаснае Маладзечанскае музычнае вучылішча. Першай працай у тэхніцы буцінанкі была дыпломная работа: серыя кніжных ілюстрацый да ўласнай кнігі беларускамоўных вершаў. Тады я была яшчэ Надзеяй Смальяковай. Мой куратар сказаў: "Надзя, ну гэта ж не выцінанка, але рабі, мне падабаецца!" А мне дазвол быў непатрэбны. Я такі чалавек: калі мне трэба, я раблю. Калі сумняваешся і не робіш – потым шкадуеш. На абароне дыпломнай работы мне паставілі пяцёрку па пяцібальнай сістэме.

Магчыма, Надзя паступіла б у Акадэмію мастацтваў, як і планавала ў 17 гадоў, калі б не бразільскі серыял. Там апісвалася неверагодна рамантычная гісторыя: яна – рэдактарка, ён – рэпарцёр. Дзяўчына тады падумала: "Навошта мне гэты дызайн? Усё роўна потым тыя канапы навучуся маляваць. Вось у серыяле – сапраўднае жыццё!" Надзя загарэлася і ў адзін дзень вырашыла, што будзе журналісткай. Паступіла ў Інстытут журналістыкі, потым працавала і на маладзечанскім тэлебачанні, і на сталічным.

– Я часта ўпадаю ў крайнасці, – кажа мастачка. – Гэта тычыцца не толькі прафесіі. Калісьці ў мяне былі фіялетавыя валасы, сёння – светлыя. Для мяне няма праблемы ў тым, каб мяняцца. Толькі, мабыць, пол ніколі не змяню. Не хачу.

Пакуль Надзя вучылася на журналістку, малявала толькі для сябе, у стол. Буцінанкі, выразаных работ, увогуле не было.

– Першую буцінанку пасля доўгага перапынку выразала, калі ўжо пераехала ў Мінск. Тады быў пераходны перыяд у маім жыцці, сапраўдны стрэс. Гэта, мабыць, і падштурхнула. За першай работай была другая, трэцяя, першая персанальная выстава ў Мінску, а за ёй – усе наступныя, ужо больш за 13 прайшло. Што падштурхоўвае мастака ствараць? Альбо грошы, альбо выстава. У мяне быў другі варыянт. Планавалася першая персанальная выстава ў Палацы Рэспублікі, і мне за паўгода трэба было зрабіць каля 30 прац.

**– Атрымліваецца працаваць на замову?**

– Ужо зразумела, што не магу. У мяне былі пару спроб выразаць тое, што замаўлялі, але калі рабіла, быццам выцiскала гэта з сябе. Не было натхнення. Я магу за тыдзень зрабіць работу. А магу і на працягу паўгода адной займацца. У мяне ўсё залежыць ад натхнення. Хаця што такое натхненне? Калі не ляната, калі ёсць жаданне і дазваляе здароўе. І добры настрой. Альбо мастак працуе, калі ў яго стрэс, як станоўчы, так і адмоўны.

Але ёсць стрэсы, якія вымушаюць адкласці пэндзаль ці нажніцы.

> **– Я працавала на сталічным тэлебачанні, калі здарыўся тэракт у мінскім метро. Адна з першых прыехала на месца. Шмат бачыла, зашмат. Пасля таго паўгода не брала ў рукі пэндзаль. Не змагла гэта выказаць у мастацтве і, мабыць, ніколі не змагу.**

Цяпер мастачка працуе над уласнай кнігай "Бася і Пігласс". Пігласс – істота, выдуманая Надзяй. Выглядае як вока з крыламі. Жыве побач са шчаслівымі людзьмі і харчуецца іх пазітыўнай энергіяй.

– Я напісала кнігу літаральна за тыдзень, як даведалася, што цяжарная другім дзіцем. Працэс падрыхтоўкі ілюстрацый адкладваўся, цяпер актыўна імі займаюся. У Беларусі кніга будзе выдадзеная на беларускай мове. Галоўная гераіня – першакласніца Бася. Пацешная і кучаравая. Гэта кніга-альбом, у ёй мінімум тэксту і максімум ілюстрацый – акварэльных малюнкаў. Нялёгка ідзе праца. Не таму, што не ведаю, што маляваць. Ведаю. Проста я сядаю за гэта, калі дзеці кладуцца спаць. А трэба ж раніцай прачнуцца і быць бадзёрай, вясёлай. Ужо гатова больш за палову ілюстрацый. Спадзяюся, што кніга выйдзе дзесьці бліжэй да Новага года, яна больш зімняя. Гэта будзе маё трэцяе дзіця. Бася.

**– Сям'я дапамагае ў падрыхтоўцы?**

– Мой старэйшы сын выступае ў ролі рэцэнзента. Ён першы пачуў тое, што напісана ў кнізе. Даў дабро. На кожную ілюстрацыю таксама дае рэзалюцыю: "Так, мама. Тут сатры, мне не падабаецца". Гэта цудоўна, бо кніга найперш разлічаная на дзяцей. Прыкладна на ўзрост... Хаця, на любы ўзрост. Дарослыя таксама дзеці.

У мастачкі ўжо ёсць паслядоўнікі. Надзя вяла ў Мінску ў Палацы дзяцей і моладзі студыю па буцінанцы, займалася з дзецьмі. Закрыла яе толькі таму, што пайшла ў дэкрэтны адпачынак. Малодшаму сыну мастачкі, **Яну**, – год і чатыры месяцы. Старэйшаму, **Жэню**, – 9 гадоў. Ён не выразае, але малюе.

**– У Пігласа ўжо з'явіліся сябры?**

– Гэта ўвогуле асобная тэма. У кнізе пра Басю і Пігласа іншыя персанажы не будуць апісаныя, але яны будуць намаляваныя. Калі кніга будзе мець поспех, зраблю працяг. Тады там будзе, напрыклад, пра Пуву, істоту, якая харчуецца гузікамі і глядзіць за тым, каб у чалавека былі добрыя сны.

**– Што згадваеце пра Маладзечна?**

– Я там нарадзілася, пражыла 27 гадоў. Скончыла чацвертую школу, дзе вучылася ў эксперыментальным класе з мастацкім ухілам. Там у 14 гадоў перамагла ў мастацкім конкурсе "Дзеці свету малююць Іерусалім", за што мяне ўзнагародзілі двухтыднёвай паездкай у Ізраіль. Гады навучання ў музвучылішчы – увогуле самы цудоўны час! Мая маладосць, закаханасць, рамантыка такая... У Маладзечне я выйшла замуж, нарадзіла першага сына. Вельмі люблю гэты горад. Асабліва мне падабаецца прыязджаць у маі. Тады горад надта прыгожы. Майскі горад. Люблю прайсціся па парку, цяпер ужо з каляскай. Ідзеш і прыгадваеш: вось тут, пад гэтым дрэвам, я з будучым мужам цалавалася, а вось тут плакала, таму што з кімсьці рассталася, а тут мы з мамай сядзелі і размаўлялі. Цяпер для мяне гэта горад успамінаў.

**Даведка "РГ".** Надзя Бука нарадзілася 2 снежня 1981 года. 27 гадоў пражыла ў Маладзечне, пасля пераехала ў Мінск.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
Vel 566-26-99 (працоўны)

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## Час пасля Другой сусветнай вайны

*Заканчэнне. Пачатак у нумарах 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

**Як гэта ні дзіўна, але яшчэ на пачатку 19-га стагоддзя, пасля падзелу Рэчы Паспалітай, Маскоўская праваслаўная царква стала афіцыйна забараняць у нашай мясцовасці спажыванне ў ежу бульбы, як “латинянскую заразу”.**


Фота забяспечана Сяргеем КАСМАЧОМ.

**Перадваенны здымак, які цудам захаваўся, выпускнікоў 1941 года і настаўнікаў Беніцкай школы, у якой большасць вучняў была з Маркава. У другім радзе першы злева – будучы бацька аўтара Аляксандр Касмач, далей шостая – яўрэйка. Восьмая і дзявяты – бачна, яўрэйскія дзеці. Усяго іх на здымку пяцёра. У 1943 годзе яны будуць спаленыя разам з іншымі яўрэямі гета. У трэцім радзе першай злева стаіць Надзея Монід, далей – дзве яўрэйкі, чацвертая – мама аўтара. Побач з мамай, справа ад яе, стаіць Хайка. Мама расказвала, што яны былі сяброўкамі. У чацвертым радзе другі і трэці злева стаяць два браты. У вайну іх шматдзетную сям'ю расстралялі партызаны за тое, што іх бацька служыў у Заскавіцкай паліцыі. Бацька і мама, перажыўшы вайну, праз дзесяць год зарэгіструюць свой шлюб у Маркаўскім сельсавеце.**

Немцы з'явіліся ў мястэчку не адразу. Час ішоў, трэба было неяк выжываць. Перш за ўсё забралі з нястворанага калгаса назад свой рыштунак, сеялі, будаваліся. Лес цягалі коньмі з Вяллі, па якой да вайны сплаўляўся лес.

У 1942-м у Маркаве з фронту на пастой з'явіліся немцы, якія занялі лепшыя дамы, павыганяўшы гаспадароў.

Местачкоўцы жылі па дзве-тры сям'і ў адной хаце. Спачатку немцы паводзілі сябе даволі міралюбіва. Калі не хапала насення для сяўбы, давалі насенне, толькі б аралі зямлю. Не перашкаджалі будавацца.

Частка старэйшых вучняў паступіла вучыцца ў Маладзечанскую адміністрацыйна-гандлёвую школу, арганізаваную Барысам Кітом і ператвораную пазней па сваёй праграме ў адміністрацыйна-гандлёвы інстытут. Не ўсе ахвотныя змаглі здаць іспыты для паступлення ў школу. Навучанне ішло на беларускай мове. Платай за яго былі пуд мукі і кілаграм сала на год. Многія дзеці з Маркава вучыліся ў той школе.

Да вайны было нялёгка, а стала яшчэ цяжэй. Але жыццё не спынялася, мястэчка выконвала такія ж функцыі, як і раней. Пастаянныя турботы і адвечны сялянскі клопат: нарыхтоўка ежы – адсеяцца, вырасціць, сабраць, каб было чым накарміць дзяцей; назапашванне дроў на зіму; нарыхтоўка сена скаціне; клопаты пра адзежу, абутак для зімы.

Праблема была адна – як увогуле выжыць у існуючых абставінах. Галоўным прадуктам харчавання зрабілася бульба, вядомая нашым землякам з 18-га стагоддзя.

Менавіта Маскоўская царква ўвяла тэрмін “бульбаш”, як найменне беларуса-ўніята, ерэтыка, які масава спажывае забаронены ёй “латинский плод”.

Яшчэ доўгі час пасля вайны гэты “другі хлеб” заставаўся на стале ў местачкоўцаў выратавальнай стравай.

У час акупацыі немцамі было арганізаванае яўрэйскае гета. На працу з гета выводзілі яўрэяў палоць брук на дарозе з Маркава да Беніцы. У далейшым гета было спаленае немцамі. У 1943 годзе людзей сагналі ў гумно і падпалілі. Можна толькі здагадвацца, які страх і жуду адчувалі жыхары Маркава.

Немцы некалькі разоў праводзілі акцыі па гвалтоўным вывазе маладых хлопцаў і дзяўчат у Германію.

І савецкая, і нямецкая ўлады аднолькава антыгуманна выкарыстоўвалі нашых людзей у якасці дармавой рабскай рабочай сілы.

Партызаны ў мястэчка не наведваліся, бо ведалі аб прысутнасці ў ім немцаў.

### Пасля вайны

Такое чаканае вызваленне, прыход “другіх Саветаў” у 1944 годзе, палёгкі не прынесла. Пад падазрэннем аказаліся амаль усе жыхары, таму што жылі і працавалі пад акупацыяй. І ў далейшым гэты факт заўсёды прыпамінаўся маркаўцам новай уладай. Пачаліся выклікі на допыты. Адных – што працавалі на немцаў, іншых – за тое, што вучыліся ў гандлёвай школе і магчыма ўдзельнічалі ў Саюзе Беларускай Моладзі. Былі і арышты.

Пасля 1946 года людзі баяліся атрымоўваць пасылкі з пошты ад родзічаў з Амерыкі, якія яшчэ пры Польшчы выехалі “на заробаткі”, і пры гэтым хітравалі. Сваю адмову тлумачылі ківаючы на суседзяў, а тыя ў сваю чаргу таксама ківалі на папярэдніх суседзяў. Атрымоўваўся замкнуты круг. Адрасатаў не маглі знайсці, таму што ці не палавіна маркаўцаў мела прозвішчы Міцько і Рагуновіч. Здаралася, што супадалі нават ініцыялы. Такая сітуацыя склалася пасля таго, як месціча, які атрымаў аднойчы такую пасылку, выклікалі на допыт.

Баяліся пры чужых гаварыць лішняе. З суседніх Кавальцаў мужыка пасадзілі на дзесяць гадоў за выказванне пра Сталіна.

### Пасляваенная будучыня трывожыла сваёй няпэўнасцю

У 1949 годзе быў створаны калгас “Чырвоная Армія”, з 1959-га – “Чырвоны прамень”, з 1977 года – імя Леніна. Спачатку ў калгас запісаліся самыя бедныя, і справа не заладзілася, не ставала старання, рыштунку, не было чым плаціць за працу. Больш заможныя і працавітыя пасмейваліся, але нядоўга.

Пасля таго, як ноччу забралі некуды аднаго гаспадара разам з сям'ёй, абвінаваціўшы ў выкарыстанні наёмнай працы падчас уборачнай пары, у калгас, плюючыся, запісаліся і астатнія. “Пераражылі лета гарачае, пераражывем і г… сабачае”, – гаварылі нязломныя аптымісты маркаўчане.

Правілы жыцця пры новай уладзе засвойваліся вельмі хутка. Часта прыгадвалі ранейшыя часы, параўноўваючы іх з існуючай рэчаіснасцю. У выніку прыходзілі да высновы, што “за польскім часам” парадку было больш і жыццё было хоць і не простае, але не пагражала высылка да “белых мядзведзяў”.

Перыяд “калгасізацыі” быў адметны цяжкай працай спачатку за працадні, а затым – за капейкі. Людзей канчаткова адарвалі ад сродкаў вытворчасці. Трапіўшы ў поўную залежнасць ад дзяржавы, а фактычна ад волі мясцовых “начальнікаў” – старшыні калгаса, сельскага савета, брыгадзіра, месцічы прайшлі цяжкі час змены свядомасці. Нарадзіўся выраз: “Усё вакол калхознае, усё вакол маё”, а фактычна – нічыё.

У галовы былых местачкоўцаў быў забіты ідэалагічны цвік, што без калгаса яны проста прападуць. Але рабская праца не можа не прывесці да сумных вынікаў.

Калгасны час і цяпер узгадваецца выразам у бок таго, хто нешта напартачыў у якой-небудзь справе – “ну-у, ты і калхоз”.

У пасляваенны перыяд стала даступным таннае віно, чаго раней не было. Грошай бракавала, таму ўсё часцей у якасці мясцовай цвёрдай валюты стала выкарыстоўвацца пляшка гарэлкі альбо віна. Склаўся нават негалосны тарыф за паслугі. Складана было з прадуктамі харчавання. Аднак пры ўсіх уладах выручала жыхароў працавітасць і адказнасць за сваю працу. У 1969 годзе ў Маркаве мелася 285 двароў і жыло 865 жыхароў.

Нехта можа падумаць, што Герой Савецкага Саюза Фёдар Маркаў, помнік якому знаходзіцца ў Маладзечне на аднайменнай вуліцы, родам з Маркава. Аднак ніякага дачынення да цяперашняй вёскі Маркава ён не мае.

Навейшая гісторыя былога мястэчка пачалася з распадам савецкай імперыі, калі ўпершыню беларусы займелі сваю дзяржаву. І трэба яшчэ вельмі добра пастарацца, каб у цяперашніх складаных варунках утрымаць яе незалежнасць.

Аднаго разу прыйшлося незнарок пачуць у Маладзечне размову двух незнаёмцаў. Адзін з іх выгаворваў за нешта свайму суразмоўцу: “Як табе не сорамна, ты ж з Маркава!”. Вось яна – маркаўская годнасць.


Сяргей КАСМАЧ, Маладзечна.

● КАЛЯНДАР

### 5 САКАВІКА

**120 гадоў** з дня нараджэння Кандрата Крапівы (сапр. Кандрат Кандратавіч Атраховіч, 1896 – 1991), беларускага драматурга, паэта, празаіка, мовазнаўцы, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі. Скончыў БДУ (1930). Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1920-23 гадах – у Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у 1939 годзе ў паходзе ў Заходнюю Беларусь і савецка-фінскай вайне (1939-1940). У Вялікую Айчынную вайну працаваў у франтавых газетах. Ад 1945 года – рэдактар часопіса “Вожык”. Ад 1947-га – загадчык сектара Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН Беларусі, у 1982-1989 гадах – у Інстытуце мовазнаўства імя Коласа АН Беларусі. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1922 годзе. Першыя яго творы пераважна гумарыстычнага і сатырычнага плана (зборнікі “Асцё” і “Крапіва”). У іх высмейваў старыя парадкі і звычаі, выступаў гарачым прапагандыстам новага ўкладу жыцця, пісаў на модную ў 1920-я антырэлігійную, а таксама міжнародныя тэмы. Асабліва плённа працаваў у жанры байкі, стварыў у беларускай літаратуры непераўзыдзеныя яе ўзоры: “Дзед і Баба”, “Дыпламаваны баран”, “Сава, Асёл ды Сонца”, “Ганарысты парсюк”, інш. Значны ўклад зрабіў у развіццё сатырычна-гумарыстычнай паэмы. Ад 1933 года найбольшую ўвагу аддаваў драматургіі. Яго п'есы ішлі на сцэнах многіх тэатраў СССР і за мяжой.

### 7 САКАВІКА

**85 гадоў** назад (1931) створанае Беларускае тэлеграфнае агенцтва (БелТА) (у 1992 – 1995 гг. Беларускае інфармацыйнае агенцтва (БелІНФАРМ).

### 10 САКАВІКА

**1711** (ці 12 сакавіка) – нарадзіўся Міхал Антоні Сапега, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, перакладчык, літаратар.

**1861 год.** Памёр Тарас Шаўчэнка, украінскі пісьменнік, мастак, заснавальнік новай украінскай літаратуры. У 1829-1831 гг. жыў у Вільні. Падтрымоўваў беларускі рух.

### СЁЛЕТА:

**240 гадоў** назад (1776) у мястэчку Крывічы Мядзельскага раёна пабудаваны Андрэеўскі касцёл і манастыр трынітарыяў, які з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга барока.

**245 гадоў** назад (1771) у вёсцы Латыгаль Вілейскага раёна пабудаваная царква Мікалая Цудатворца.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Хлопчыку з рэдкай хваробай неабходная ваша дапамога

**Арэс Доган пакутуе на вельмі рэдкую і цяжкую хваробу – тубярозны склероз. Пухлінныя ачагі разрастаюцца па жыццёва важных органах, актывізуюцца сударгавая актыўнасць і эпілептычныя прыступы.**


Фота забяспечана Ірынай ДОГАН.

Гэта перашкаджае дзіцяці пазнаваць свет, засвойваць інфармацыю, канцэнтраваць увагу, затармоўвае развіццё маўлення, бытавых навыкаў. Калі няма своечасовага лячэння, хвароба садзейнічае і развіццю іншых захворванняў.

Дзіця не раз даследавалі ў беларускіх клініках. Але спецыялісты дапамаглі скарэктаваць толькі эпілептычныя прыступы. Няма ў краіне і спецыялізаваных цэнтраў па комплекснай барацьбе з тубярозным склерозам.

На 150 тысяч жыхароў Маладзечна і раёна адзін выпадак праяўлення гэтай хваробы. У Мінскай вобласці два выпадкі. Па медыцынскай статыстыцы, на хваробу пакутуе адзін чалавек на 30 тысяч.

Таму для выратавання хлопчыка патрэбнае вельмі дарагое нейрахірургічнае і медыкаментозна-тэрапеўтычнае лячэнне ў адной са спецыялізаваных замежных клінік, якія ёсць у Іспаніі, Ізраілі, Германіі, Амерыцы. Лячэнне каштуе 60-70 тысяч долараў. Аднак такіх грошай у сям'і няма: мама выхоўвае хлопчыка адна, яна не працуе, бо даглядае за сынам. Таму сям'я просіць дапамагчы іх гору.

Лячэнне ў замежнай клініцы дапаможа спыніць і папярэдзіць далейшае праяўленне хваробы. Пасля лячэння хлопчык зможа набыць бытавыя навыкі, выконваць інструкцыі і каманды, рэагаваць на ўказанні і запамінаць, пайсці ў школу і паўнацэнна развівацца. Галоўнае, не ўпусціць час, такі неабходны для развіцця дзіцяці.

### Як можна пералічыць грошы

Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў "ААБ "Беларусбанку" (філіял №601 Маладзечна па вуліцы Прытыцкага, 13:

– **беларускія рублі** – транзітны рахунак №3819382105556 на дабрачынны рахунак №000032 у філіяле №601/Аперацыйная служба;

– **долары ЗША** – транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000106 у філіяле №601/Аперацыйная служба;

– **еўра** – транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000024 у філіяле №601/Аперацыйная служба;

– **расійскія рублі** – транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000023 у філіяле №601/Аперацыйная служба.

**Прызначэнне плацяжу:** Доган Ірына Анатольеўна, збор сродкаў на лячэнне за мяжой на карысць Догана Арэса Шан Эйлемавіча.

Дадатковая інфармацыя пра атрымальніка сродкаў па нумары (8029) 99686811.

**Аддзел інфармацыі.**

## Штогод у Маладзечне большае прыкладна на 15 наркаманаў

МАЛАДЗЕЧНА

Смяротнасць сярод спажыўцоў наркотыкаў штогод павялічваецца.

Наркатычная залежнасць узнікае вельмі хутка. Гэта хвароба небяспечная таму, што выклікае грубыя парушэнні функцый унутраных органаў, і чалавек дэградуе.

Маладзечанскі раён у гэтым не выключэнне. Штогод дактары разам з міліцыяй знаходзяць тых, хто ўжывае наркотыкі. Іх бяруць на ўлік для лячэння і рэабілітацыі.

Штогод на дыспансерны ўлік бяруць да 15 чалавек, а на прафілактычны нагляд – да 20 чалавек. У апошнюю групу ўваходзяць тыя, хто ўжывае наркотыкі эпізадычна.

Дактары псіханеўралагічнага дыспансера шмат працуюць на прафілактыку наркаманіі. Таму што нават аднойчы паспрабаваўшы наркотык, жыццё чалавека так ці інакш мяняецца назаўжды. Бяспечнага ўжывання пад адгаворкамі "я толькі крыху" ці "толькі паспрабую" не існуе.

Калі вы самі ці нехта з вашых блізкіх сутыкнуліся з праблемай наркаманіі, мы заўсёды гатовыя вам дапамагчы.

**Юлія ВАГУРА,**
**доктар-псіхіятр-нарколаг наркалагічнага аддзялення Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера.**

---

У Маладзечне амаль на **кожнага другога** жыхара горада прыходзіцца адзінка транспарту.

Суадносіны колькасці насельніцтва горада і колькасці зарэгістраваных транспартных сродкаў.

2,15

У Вілейцы ледзьве не на **кожнага** жыхара горада прыходзіцца адзінка транспарту.

Суадносіны колькасці насельніцтва горада і колькасці зарэгістраваных транспартных сродкаў.

1,14

# Самая папулярная машына ў Вілейцы – ВАЗ, а ў Маладзечне?

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ

**"Не, ну колькі машын стала! Ні прайсці ні праехаць!" Гэтыя словы раз-пораз даводзіцца чуць ад гараджан, мяркуем, не толькі нам.**

Калі і вы чуеце, што нехта абураецца тым, што машын стала вельмі шмат або ездзяць адны "Фольксвагены", дзякуючы Маладзечанскай ДАІ і "Рэгіянальнай газеце" можаце цяпер апераваць дакладнымі лічбамі.

У 2016 годзе ў Маладзечне зарэгістравана больш за 44 000 транспартных сродкаў.

Аўтобусаў па горадзе ездзіць 450, грузавікоў – больш за 4 500, легкавых аўтамабіляў – 33 500.

І гэта дадзеныя толькі па горадзе. А дадайце сюды 18 тысяч транспартных сродкаў, якія зарэгістраваныя ў раёне. З іх аўтобусаў – 140, грузавікоў – 2 200, легкавых машын – 12 800.

Астатнія транспартныя сродкі – гэта мататэхніка і прычэпы.

А ўявіце сабе, што было б, каб гэтыя машыны сабраць у адным месцы?

Па Вілейскім раёне ездзяць 230 аўтобусаў, 2 600 грузавікоў і 16 500 легкавушак. Агульная колькасць транспартных сродкаў у Вілейскім раёне – 23 600.

На 5 500 транспартных сродкаў менш у Валожынскім раёне – 18 000.

Аўтобусаў з іх – 200, грузавых аўто – 2 300, а легкавых аўтамабіляў – 12 000.

У Мядзельскім раёне транспартных сродкаў толькі на адну сотню болей, чым у Валожынскім.

170 аўтобусаў, 1 700 грузавых і 10 300 легкавых машын складаюць аўтапарк раёна.

Што датычыцца самых папулярных марак аўто, то ў Маладзечне больш за ўсё "Фольксвагенаў" – 4 015 машын, а ў Вілейцы самае папулярнае аўто – ВАЗ. Іх у раёне 1 496. Той жа ВАЗ самы папулярны і ў Валожыне – 752 машыны, і ў Мядзеле – 518.

Прызнайцеся, ці часта вам выпадае апошнім часам бачыць на дарогах старыя, добрыя, шумныя "Запарожцы"? А між тым іх вось колькі: Маладзечна – 1 205, Вілейка – 415, Валожын – 170 і у Мядзеле іх – 110.

**Папрасілі ў ДАІ даведацца, колькі ў чатырох раёнах зарэгістравана дарагіх машын: "Бугаці", "Мазэраці", "Бэйнтлі", "Ролс-Ройсаў". Адказ быў лаканічным, як ніколі, – ноль.**



Самая папулярная машына ў Вілейцы і Валожыне – ВАЗ.

Фота cdn2.3dtuning.com.

## Іншыя папулярныя маркі машын:

| | Опель | Аўдзі | Форд | Мерседэс | Пежо | Рэно | Масквіч |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Маладзечна** | 3170 | 1440 | 2800 | 1755 | 1730 | 2315 | 2165 |
| **Вілейка** | 830 | 460 | 755 | 400 | 545 | 670 | 825 |
| **Валожын** | 360 | 305 | 280 | 140 | 200 | 340 | 335 |
| **Мядзел** | 240 | 220 | 235 | 115 | 160 | 265 | 265 |

**Наталля ТУР.**

# “Місіс Маладзечна 2016”: Буду вучыцца масажу, каб сваім мужчынам масажыраваць пятачкі і спінкі

МАЛАДЗЕЧНА

**– “ І “Місіс Маладзечна 2016” становіцца… Надзея Тугусава, – абвяшчае рашэнне журы вядучая і арганізатар свята Маргарыта Шытыка.**




"Місіс Маладзечна 2016" стала Надзея Тугусава. Злева ад яе першая віцэ-місіс Юлія Бабашынская.

Фота Настассі РОЎДЫ

– А мы ведалі, што так будзе, – гавораць сяброўкі Надзеі са шматлікай групы падтрымкі.

– І вы ведалі, што так будзе, – паўтараюць у адказ чытачы сайта “Рэгіянальнай газеты”, якія ў галасаванні на сайце rh.by за тыдзень аддалі за Надзею амаль 4000 галасоў, тым самым назвалі яе “Актыўнай місіс”.

А сама Надзея на раніцу пасля конкурсу завітала да нас у рэдакцыю ў кароне пераможцы, каб павіншаваць усіх жанчын з 8 Сакавіка і расказаць, для чаго ёй патрэбны быў удзел у гэтым конкурсе.

– Я раніцай машыну ў кароне чысціла. На мяне суседзі глядзяць і не разумеюць, а мне хораша, – усміхаецца Надзея.

Яна прызнаецца, што для яе ўдзел у конкурсе – гэта магчымасць выйсці ў свет пасля шасці гадоў дэкрэтнага адпачынку.

Аднойчы Надзея ўжо станавілася фіналісткай конкурсу прыгажосці, гэта было ў 2004 годзе на конкурсе Міс Міншчыны.

– Але калі ты выходзіш на конкурс прыгажосці, трымаючы за руку двух сыноў – гэта абсалютна іншыя ўражанні. Асабліва калі твой сын пасля глядзіць на цябе і пытаецца: “Мама, ты каралева?”

### Пасля конкурсу муж пагражаў выкінуць тэлефон

Пра тое, што ў Надзеі будзе самая вялікая група падтрымкі, яна ведала за некалькі тыдняў да конкурсу.

– Два тыдні ў мяне не змаўкаў тэлефон, муж пагражаў, што выкіне яго, калі я не выпушчу яго з рук да апоўначы.

Тэлефон разрываўся ад званкоў сябровак. Адны тэлефанавалі з прапановамі пазычыць сукенку або туфлі, іншыя былі адказныя за афармленне групы падтрымкі, – выраблялі ўсім аднолькавыя кароны з кардону, малявалі плакаты. Трэція думалі над тым, як прадставіць усю сям'ю на выхадзе з дзецьмі.

– Сяброўкі нават знайшлі касцюмы крабаў для дзяцей і для мяне касцюм Русалачкі. Сапраўдныя касцюмы з клюшнямі. Але я не рызыкнула, пабаялася, што дзеці спалохаюцца, разгубяцца.

Падтрымаць Надзею прыехалі сябры здалёк, сваякі.

– Бабулечка мая любая прыйшла. Яна паўгода хварэе, на вуліцу не выходзіла, а на конкурс прыйшла. Ну як я магла не перамагчы?

**– Верылі ў перамогу ад пачатку?**

– Не, хваляванне было. Саперніцы былі прыстойныя. Я да апошняга думала, каго ж выбера журы: мяне ці **Юлію Бабашынскую.** Але яны зрабілі правільны выбар, – смяецца Надзея.

**– Аднак сярод канкурсантак былі і тыя, хто ад пачатку глядзеўся нявыйгрышна…**

– Ну і што? Усе ўдзельніцы малайцы, што рашыліся на ўдзел у конкурсе. Гэта ж не конкурс Місіс Сусвет, калі на цябе глядзіць увесь свет. А кожная жанчына для свайго мужа, для сваёй сям'і ўсё адно самая лепшая мама і жонка. І кожная ў чымсьці лепшая.

**– Вы – прафесійны харэограф. І ў творчым конкурсе прадстаўлялі танец. Гэта сумленна ў адносінах да іншых удзельніц?**

– Так. Чаму я павінна не рабіць гэта толькі таму, што раблю гэта прафесійна?

**– Ад “Рэгіянальнай газеты” вы атрымалі сертыфікат на вучэбны семінар ад студыі прыгажосці “Сфера прыгажосці”. Які семінар выбераце?**

– Курс масажу, каб масажыраваць сваім любімым мужчынам, мужу і сынам, пятачкі і спінкі. Трэба ж ім неяк аддзячыць, што цярпелі дома бардак два тыдні.

### Мама, заспявай песню пра тату

Просяць сыны Надзеі перад сном, і Надзя пачынае спяваць: “С причала рыбачил апостол Андрей…” гурта Nautilus Pompilius.

Старэйшаму сыну, **Іллі**, – чатыры з паловай гады, малодшаму, **Піліпу**, – два з паловай.

– Казак на ноч я ім не чытаю, таму што кожны пачынае цягнуць кніжку на сябе, пачынаецца крык, гвалт і ніякага сну. А вось песню у цемнаце паслухаць могуць, але толькі гэту, “пра тату”.

Жыццё Надзеі са з'яўленнем сыноў змянілася кардынальна.

– Я нейкі час была ў ступары, як жыць далей, калі са свету мастацтва, сцэны, выступленняў трапіла ў “пузатае становішча”. Але цяпер атрымоўваю асалоду ўставаць разам з дзецьмі а палове сёмай. Хаця мае сяброўкі здзіўляюцца. Калі вучылася ва ўніверсітэце, магла ўстаць раніцай, папіць кавы і падумаць, што яшчэ не выспалася, і легчы спаць замест таго, каб ісці на пары ва ўніверсітэт.

Надзея выхоўвае сыноў быць джэнтльменамі.

– Піліп яшчэ маленькі, а Іллю я вучу, што калі ён заўважыў, што ў выхавальніцы новая прычоска, то хай скажа ёй пра гэта. А яшчэ ў Іллі ў групе ёсць дзяўчынка Таня, якая падабаецца майму сыну. І вось на Дзень Святога Валянціна я параіла падарыць ёй валянцінку.

Але пры гэтым Надзея марыць пра дачку.

– Ну а што гэта за сям'я, у якой няма маленькай дзяўчынкі? Я вельмі хачу дачушку, бо хлопчыкі вырастуць і трапяць пад уплыў сваіх нявест. А дачка гэта дачка.

### Сакрэт прыгажосці – дома ніякіх бігудзі і халатаў

Нават, калі і дазволіш сабе з раніцы апрануць халацік ці звязаць неахайны хвосцік, то да прыходу мужа з працы трэба абавязкова прывесці сябе ў належны выгляд, лічыць “Місіс Маладзечна”.

– Звычайна, я ўжо з раніцы раблю макіяж, прычэсваюся. Тады ж і дзень праходзіць на ўздыме, і суп весялей варыцца, і смецце выносіцца з паднятай галавой, і ўборка дома робіцца. Ну, ідзеш ты такая працэрці люстэрка, а адтуль на цябе глядзіць прыгажуня.

Сакрэтаў жа прыгажосці ў Надзеі няма. Раніцай выпівае шклянку вады, праціpae твар кавалачкам лёду, займаецца на трэнажоры.

Таму і пажаданне ўсім чытачкам ад Надзеі такое:

– Мілыя жанчыны! Прыгажосці вам знешняй і душэўнай. Любіце сябе. Любіце сваіх блізкіх, не саромейцеся паказваць сваю любоў, і тады гэтая любоў, каханне, вернецца да вас. Ой, гэта што атрымалася, што ўсё вяртаецца да таго, што трэба любіць сябе? Хаця, так, усё правільна, – смяецца Надзея і папраўляе локан, які выбіваецца з-пад кароны.

### Бліц для Місіс

**– Любімы колер?**

– Сіні.

**– Любімы фільм?**

– “Дагрукацца да нябёсаў”.

**– Апошняя кніга, якую прачыталі?**

– “Завадны апельсін” Рэя Брэдберы.

**– Калі сямейны адпачынак, то…**

– Раз у месяц усёй сям'ёй на рыбалку.

**– Любімы горад?**

– Маладзечна і Вілейка.

**– Любімая страва?**

– Тая, што гатуе муж. А муж лепш за ўсё гатуе мяса.

**– Як дома называе муж?**

– Буся.

**– Ваш недахоп.**

– Хачу стаць больш гаспадарлівай.

**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

НАВІНЫ

## Маладзечанцы – найлепшыя на Міншчыне паміж ветэранаў у міні-футболе

МАЛАДЗЕЧНА

Фінальныя гульні кубка вобласці сярод ветэранаў па міні-футболе прайшлі 27-28 лютага ў Стоўбцах. Па інфармацыі абласной федэрацыі футбола, каманда Маладзечанскага раёна атрымала тры перамогі: над камандамі з Барысава і Стоўбцаў з лікам 3:2 і Смалявічаў 3:1. Адзін матч, са Слуцкам, звяла ўнічыю 3:3. Маладзечанец **Дзмітры Вышынскі** стаў лепшым гульцом турніру.

## "Смаргонь" прайграла ў Мінску

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" 27 лютага ў сталіцы правёў таварыскі матч з камандай "Зорка-БДУ" (гульцы да 19 год). Смаргонцы прайгралі 2:3.

– У сувязі са мноствам траўмаў на матч адправіліся 14 футбалістаў, – паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**. – У першым тайме гаспадары адкрылі лік, але пасля пенальці **Сяргей Крот** з пенальці аднавіў раўнавагу. Неўзабаве сапернікі зноў выйшлі наперад. За чатыры хвіліны да канца сустрэчы **Арцём Кіслы** зноў зраўняў лік, а праз паўтары хвіліны гаспадары забілі пераможны гол.

Чарговы таварыскі матч "Смаргонь" 5 сакавіка дома згуляе супраць ФК "Ашмяны".

## Каратысты з Вілейкі прывезлі золата і два срэбры з Таліна

ВІЛЕЙКА

У Таліне 27 лютага прайшоў міжнародны турнір па каратэ Tallinn Bulldog 2016.

Удзельнічалі шэсць камандаў: з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, Расіі, Беларусі – усяго каля 300 чалавек.

Вілейку на спаборніцтвах у Эстоніі прадстаўлялі **Мікіта і Павел Кірыевічы, Дзмітры Стражнікаў**, паведаміў трэнер клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч**.

Мікіта Кірыевіч заняў першае месца ў катэгорыі 16-17 гадоў (76 кілаграмаў). Правёў тры баі: з расіянінам і двума эстонцамі.

– Турнір спадабаўся, арганізацыя яго была на ўзроўні, – расказаў Мікіта.

Павел Кірыевіч заваяваў два срэбры. Ён удзельнічаў у катэгорыі 18+ (75 кг) і абсалютнай вагавай катэгорыі.

Дзмітры Стражнікаў прайграў у першым баі чэмпіёну сваёй катэгорыі з Латвіі з мінімальным лікам – быў за крок ад перамогі. Потым змагаўся ў суцяшальных баях, дзе б'юцца тыя, хто прайграў фіналістам. Там дапусціў пару памылак і прайграў.

## Зноў выйгралі астраўчане

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

Як і ў мінулым туры, абедзве каманды з рэгіёна прайгралі ў вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе.

"Ашмяны" ў гасцях 27 лютага прайгралі "Фаражу" са Слоніма 8:13.

Назаўтра "Вілія" са Смаргоні таксама ў гасцях саступіла ФСК "Гродзенскі" 3:10.

"Вілія" апусцілася на чацвертае месца, "Ашмяны" па-ранейшаму замыкаюць шасцёрку.

У першай лізе чэмпіянату вобласці "Меліяратар" з Астраўца 27 лютага выйграў у "Мастоў" 14:5. Гэта перамога ўзняла астраўчан на другое месца.

## "ІП Мядзел" адолеў "Сілавік"

МЯДЗЕЛ

У чэмпіянаце раёна па міні-футболе каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму 24 лютага згуляла ўнічыю 6:6 з камандай райвыканкама.

У другой гульні дня сышліся "ІП Мядзел" і "Сілавік".

– Пасля першага тайма мядзяльчане выйгравалі 3:0, – расказаў інструктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Кірыл Сенеў**. – Але потым "Сілавік" лік зраўняў 3:3. Гульня ішла на роўных, але "ІП Мядзел" выйграў 5:4.

Гульцы Крывіцкага спецПТВ №3 закрытага тыпу 26 лютага абыгралі "Юнацтва" 4:3. "Спадарожнік" разграміў ФК "Юніян Нарач" 11:2.

## Мядзяльчане чацвертыя ў вобласці ў валейболе

МЯДЗЕЛ

Ад 26 да 28 лютага ў Салігорску прайшоў чэмпіянат вобласці па валейболе. Каманда Мядзельскага раёна (хлопцы 2000-2001 г. н.) заняла ў групе другое месца і змагалася за медалі. Але ў паўфінале саступіла салігорцам. А ў матчы за трэцяе месца ва ўпартай барацьбе прайграла 1:2 камандзе Нясвіжскага раёна. У выніку – чацвертае месца, распавёў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ХАКЕЙ

# "Дынама-Маладзечна" абыгрывае "Нёман" у дамашніх гульнях

МАЛАДЗЕЧНА

**Дамашнія матчы серыі плэй-оф, якія адбыліся ў Лядовым палацы 28 і 29 лютага, прынеслі дзве перамогі камандзе "Дынама-Маладзечна".**



Герой двух матчаў Дзмітры Амбражэйчык.

У нядзелю Лядовы палац сабраў 2 400 аматараў хакея.

І заўзятары, што вырашылі правесці выхадны дзень разам са сваёй камандай, мяркуем, ні на хвіліну пра гэта не пашкадавалі. На матчы былі аўтограф-сесія, і фотазоны, і конкурсы для заўзятараў.

Да першага паядынку ў Маладзечне "зубры" падышлі з мінімальнымі стратамі. З-за траўмы ўдзел у матчы не змог прыняць **Ягор Воранаў**. Затое вярнуліся ў строй **Глеб Петухоў, Станіслаў Лапачук і Мікіта Феактыстаў**.

З першых секунд матча каманды ўключылі высокія хуткасці. Дынамаўцы, якія саступаюць у серыі 0:2, губляць ужо практычна няма чаго. Менавіта таму "бела-сінія" адразу ж узяліся за справу. Але як ні стараліся хлопцы, першымі ў паядынку закінулі госці. **Павел Баярчук** вынікова падставіў клюшку пасля кідка **Даніэля Сема**. Адыграліся падапечныя **Дзмітрыя Краўчанкі** ўжо праз паўтары хвіліны. Апынуўшыся на чужым пятачку, вароты сваёй былой каманды пабіў **Аляксей Бадун**.

Пачатак другой дваццаціхвілінкі застаўся за гаспадарамі. Намаганнямі **Данілы Карабанава і Дзмітрыя Амбражэйчыка** дынамаўцы давялі лік да 3:1. Дарэчы, для Данілы гэтая шайба стала першай у складзе "Дынама-Маладзечна".

На старце заключнай трэці дынамаўцы засталіся ўтрох. Гродзенцы такой перавагай не маглі не скарыстацца. Праўда, закінулі яны, калі "бела-сініх" на пляцоўцы было ўжо чацвёра. І гэта ўсё, чаго здолелі дамагчыся гродзенцы на маладзечанскім лёдзе.

### Гульня другая. Каней на пераправе не мяняюць

Другую гульню маладзечанцы адыгралі тым жа складам, што і пераможную гульню напярэдадні.

З першых хвілін сустрэчы дынамаўцы актыўнічалі каля брамы гасцей. На жаль, акрамя некалькіх небяспечных кідкоў "бела-сінія" так нічога і не дамагліся. Апладысменты трыбун маладзечанцы крыху пазней усё ж сарвалі. Пад канец перыяду Дзмітры Амбражэйчык на чужым пятаку першым паспеў на дабіванне – 1: 0.

У другім перыядзе маладзечанцы і гродзенцы сталі дзейнічаць больш асцярожна. Як вынік, ніводнага выдалення. Асцярожнасць на колькасці небяспечных момантаў і напале барацьбы на лёдзе ніяк не адбілася. У сярэдзіне гульні "Дынама-Маладзечна" намаганнямі **Рамана Каскова** падвоілі сваю перавагу. Праўда, праз некалькі хвілін госці адну шайбу ўсё ж адквіталі.

Заключная трацiна матча прайшла ва ўпартай барацьбе. Ніхто з камандаў не хацеў саступаць. Нашым хлопцам было нашмат цяжэй адстаяць перавагу ў адну шайбу, таму што суддзі пры найменшым намёку на фол, пакідалі "зуброў" у меншасці. Аднак неспартыўныя паводзіны гасцей, якія ў адным з эпізодаў разбілі **Мікіту Усціненку** нос, засталіся беспакаранымі.

Больш за тое, арбітры сустрэчы выпісалі нашаму абаронцу дзве хвіліны за сімуляцыю. Але дынамаўцы ўсё роўна свайго дамагліся – Дзмітры Амбражэйчык у канцоўцы сустрэчы ставіць кропку ў пустых варотах гродзенцаў – 3:1.

Чакаем чарговую гульню супраць Гродна. Яна адбудзецца ў пятніцу, 4 сакавіка.

**Наталля ТУР.**
**паводле hcdinamo.by**

ФУТБОЛ

## Аляксандр Кавалёў: "Калі б заўзятары скінуліся па мільёну – каманда б гуляла"

МАЛАДЗЕЧНА

**"Рэгіянальная газета" працягвае сачыць за лёсам каманды "Маладзечна ДЮСШ 4".**

У аўторак, 1 сакавіка, пытанне ўдзелу каманды ў другой лізе адкрытае. Але толькі для ўладаў. Трэнеры і гульцы сваё рашэнне прынялі.

Каментуе загадчык сектара фізічнай культуры, спорту і турызму аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Кавалёў:**

– Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** на сустрэчы з начальнікам аддзела адукацыі, спорту і турызму сказаў, што каманда сёлета зможа гуляць на такіх жа ўмовах, што і ў мінулым годзе. Дадатковага фінансавання няма і не будзе. З бюджэту даць грошай мы не зможам. Таму, калі трэнер **Аляксандр Гармаза** пагодзіцца працаваць у такіх умовах, будзем разважаць далей. На сёння ж пытанне стаіць аб тым, як у такой цяжкай фінансавай сітуацыі захаваць дзіцячы футбол.

Што датычыцца абласных спаборніцтваў, то Аляксандр Кавалёў не бачыць тут праблемы:

– Адмовіцца ад удзелу каманда ДЮСШ, значыць, заявім "Забудову". Абласны чэмпіянат не патрабуе шмат грошай, таму вынік мы закрыем 100%.

### Аляксандр Гармаза: "У другой лізе каманды не будзе!"

– Адназначна, на тых умовах, як мы гулялі летась, сёлета я працаваць не буду. Я не дазволю здзекавацца з маіх гульцоў. Ледзь выжывалі ў мінулым годзе і сёлета працягваць працаваць так мы не будзем. І гэта не толькі мая думка. Футбалісты таксама не будуць псаваць сваё здароўе дзеля таго, каб каманда проста гуляла. Застаецца толькі пытанне, чаму 16 тысяч Ашмяны і 10 тысяч Узда знаходзяць грошы і магчымасці заяўляцца ў першую лігу, а ў Маладзечна няма грошай нават на другую. Я скажу так. Аддайце бюджэтныя грошы, што прызначаліся для другой лігі, на развіццё 21 віду спорту, так будзе лепей.

Аляксандр Кавалёў выказаў сваю думку наконт таго, як выратаваць каманду:

– Калі б заўзятары скінуліся кожны па мільёну – каманда б гуляла. Ну, палічыце самі – 400 заўзятараў – гэта 400 мільёнаў. І я аддаў бы свой мільён. І зажыло б Маладзечна.

**Наталля ТУР.**

**"Габелены з аленямі". Сенсацыі ад прэм'еры маладзечанскага кіно не адбылося**

Клоўны. Лепш бы гэтыя грошы хворым дзецям пералічылі. Хаця б рэальная карысць была б. ***Кінакрытык.***

**"Тут значна меней камфорту і нашмат болей фізічнай працы, але ці не яна робіць нас жывымі?" Маладая сям'я мяняе сталічнае жыццё на вясковае**

Малайцы! А мы таксама збіраемся з'ехаць з горада ў самым хуткім часе, набылі дом таксама каля Лоска, так што чытаць было і цікава, і карысна. Як добра, што ў нас будуць такія добрыя суседзі! ***Таццяна.***

**Жыхарка Валожыншчыны вінная сваім дзецям амаль 70 мільёнаў рублёў**

Цікава, як налічылі гэткія сумы... У сярэднім у месяц трэба было выплачваць прыкладна два мільёны 700 тысяч руб ці 120 даляраў... Гэта ж якую работу трэба было б мець, каб выплачваць такія аліменты... Бяруцца ж нейкія працэнты ад зарплаты... А тут?.. ***Ева.***

**Хто, на вашу думку, стане "Місіс Маладзечна-2016"? Галасуйце за фота ўдзельніц**

"Прыгажосць для жанчыны становіцца праблемай, калі няма нічога, акрамя прыгажосці". Як гаворыцца, калі душой не зачапіла, целам доўга не стрымаеш). Прыгажосць паняцце вельмі ўмоўнае і суб'ектыўнае! У жанчыне нашмат важней энергетыка, драйв, пазітыў. ***Таня.***

**Больш чым па мільёне рублёў за кілаграм. У столькі абышлася жыхару Вілейшчыны незаконна здабытая рыба**

Добра, калі б гэтыя грошы пайшлі на зарыбленне вадаёма. ***Юры.***

ТЭАТРЫ

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Казка пра чырвоную стужачку**" (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*
12 сакавіка – у 10:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
4 сакавіка – у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
11 сакавіка – у 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў *К.Макрашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў*
15 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

"**Новы калабок**" (на беларускай мове, сучасная музычная казка) *П. Васючэнка*
6 сакавіка – у 12:00

"**Маленькая гісторыя**" (на рускай мове, музычная казка) *Н. Гернэт*
13 сакавіка – у 12:00

"**Маша і Мядзьведзь**" (на беларускай мове, народная казка) *В. Швэмбергер*
20 сакавіка – у 12:00

"**Канёк-гарбунок**" (на рускай мове, чароўная казка) П. Яршоў
27 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 4 | | | 6 | | |
| 2 | | | | 7 | 9 | | | |
| | 7 | | 1 | | | 3 | | |
| | 3 | 5 | | | | 9 | | |
| 7 | | | | 5 | | | | 3 |
| | | 9 | | | | 8 | 1 | |
| | | 2 | | | 3 | | 8 | |
| | | | 5 | 8 | | | | 6 |
| | | 3 | | | 4 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
7 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
5 сакавіка – у 15:10
7 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 25 000 – 30 000 рублёў

Дзіцячы, прыгоды "**Маё піянерскае 2**" (Расія, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (3D, Францыя, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6 сакавіка – у 15:20
Цана білета: 25 000 рублёў

Мультфільм, баявік, камедыя "**Звераполіс**" (3D, ЗША, 2016, без узроставых абмежаванняў)
5 сакавіка – у 17:00
6 сакавіка – у 13:00, 19:40, 17:10
8 сакавіка – у 13:30, 18:30
Цана білета: 30 000 – 50 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
4 сакавіка – у 17:40
9 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
4, 6 сакавіка – у 22:00
5, 7 сакавіка – у 19:30
8 сакавіка – у 16:00
10 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**8 лепшых спатканняў**" (Расія, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 19:50
5, 7 сакавіка – у 22:00
6 сакавіка – у 17:30
8 сакавіка – у 21:00
9 сакавіка – у 18:50
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, баявік, прыгоды "Дывергент, глава 3: За сцяной" (ЗША, 2016, пасля 16 год)
10 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
6 сакавіка – у 14:10
Цана білета: 60 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
6 сакавіка – у 12:20
8 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (3D, Францыя, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 сакавіка – у 14:00
7 сакавіка – у 14:00
8 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 25 000 – 30 000 рублёў

Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Фільм 12-ы: Ілжывая цэль**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 17:10
6 сакавіка – у 16:20
Цана білета: 25 000 рублёў



Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
4, 9 сакавіка – у 19:20
5, 7 сакавіка – у 21:00
8 сакавіка – у 17:10
Цана білета: 50 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 сакавіка – у 16:20
6, 10 сакавіка – у 18:30
7 сакавіка – у 16:20
8, 9 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 50 000 – 60 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**8 лепшых спатканняў**" (Расія, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 21:30
5, 7 сакавіка – у 18:50
6 сакавіка – у 21:00
8 сакавіка – у 19:20
Цана білета: 50 000 рублёў

Фантастыка, баявік, прыгоды "**Дывергент, глава 3: За сцяной**" (ЗША, 2016, пасля 16 год)
10 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (2D, Францыя, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 17:50
5 сакавіка – у 15:20
6 сакавіка – у 15:10
7 сакавіка – у 14:40
8 сакавіка – у 16:40
Цана білета: 25 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Восем лепшых спатканняў**" (Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 19:30
5 сакавіка – у 19:00
6 сакавіка – у 21:20
7, 8 сакавіка – у 14:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (2D, ЗША, Канада, з 18 год)
4 сакавіка – у 21:30
6 сакавіка – у 17:00
7 сакавіка – у 21:00
8 сакавіка – у 18:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Ілжывая цэль**" (Беларусь, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5 сакавіка – у 17:10
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5 сакавіка – у 21:00
6 сакавіка – у 19:00
7 сакавіка – у 18:40
8 сакавіка – у 20:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
6 сакавіка – у 13:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кракнутыя канікулы**"(3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
7, 8 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік "**Тачка №19**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 17:50
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Ілжывая цэль**" (Беларусь, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 19:20
6 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі "**Па-за часам**" (Аўстралія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 сакавіка – у 21:10
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Песня мора**" (Ірландыя, без узроставых абмежаванняў)
5, 6, 7, 8 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Маша і мядзведзь. Заблытаныя гісторыі**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
6, 7, 8 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5, 8 сакавіка – у 18:30
6 сакавіка – у 17:30
7 сакавіка – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Жахі "**Пячора**" (Іспанія, з 18 год)
5 сакавіка – у 19:00
6 сакавіка – у 20:50
7 сакавіка – у 18:30
8 сакавіка – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэлефон для даведак:
(801771) **5-68-59**

ГАРАСКОП

4-10 САКАВІКА

**Авен.** Калі Месяц расце, то расце і энергетычны патэнцыял любога арганізма. А таму гэты час лічыцца спрыяльным для пачатку новых спраў, прыняцця важных рашэнняў.

**Цялец.** Стаўце мэту і няспешна і цярпліва ідзіце ёй насустрач. А тое, што вы яе дабʼяцеся – сумненняў не выклікае. Рабіце добрыя справы, і ўдача не прымусіць сябе чакаць, усё акупіцца ў сто разоў.

**Блізняты.** Шмат часу прыйдзецца ўдзяліць папяровай валакіце. Пастарайцеся быць як мага больш уважлівымі, каб не згубіць якога-небудзь важнага дакумента.

**Рак.** Вам выпадае рэдкая магчымасць нічога не рабіць – проста паляжаць на канапе, пачытаць кнігу, па-іншаму прыемна бавіць час. Дык вось у вас з'явіцца такі дзень – пятніца. Падзеі ў гэты дзень можна смела пусціць на самацёк. Ды і паўплываць на іх ход вы ўсё роўна не зможаце. Увогуле любыя спробы паўплываць на сітуацыю ні да чаго не прывядуць, акрамя мітусні.

**Леў.** Вы будзеце энергічныя, але можа ўзнікнуць жаданне пачаць адразу некалькі спраў, што ўскладніць вам жыццё. Не спяшайцеся, вы зробіце шмат, калі падумаеце над прыярытэтамі.

**Дзева.** Адразу адмятайце жаданне паваляцца на канапе, бяздумна паглядзець тэлевізар ці змарнаваць час у сацыяльных сетках.

**Шалі.** Пазбаўцеся ад усяго таго, што аджыло, каб упусціць свежае паветра ў ваша жыццё.

**Скарпіён.** Трацьце грошы па сваіх магчымасцях і не залазьце ў даўгі. Жывіце свабодна. Даўгі не дазволяць вам гэтага зрабіць.

**Стралец.** Калі вам цяжка і звяртаецеся да вышэйшых сіл аб дапамозе, то прасіце не аб тым, каб вас вылечылі, а аб тым, каб навучылі, як дапамагчы сабе самому.

**Казярог.** Адстойвайце ўласную незалежнасць, бо дабрынёй і безадказнасцю вашай хто толькі не карыстаецца.

**Вадалей.** Вывучайце новы для сябе напрамак дзейнасці, убірайце ў сябе чужую мудрасць і веды і не прапускайце гэтыя працэс, бо хутка вам прыйдзецца вытрымаць экзамен.

**Рыбы.** Звярніце ўвагу на сваё здароўе. Праведзеныя працэдуры, у тым ліку і касметычныя, будуць больш эфектыўныя ў канцы тыдня.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

